• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 4000 рублёў

17 снежня 1998 г. чацвер, № 244 ( 23595)




# ЗВЯЗДА


## «САЮЗ ДЗВЮХ» НА ПАРОЗЕ НОВАГА ЭТАПА РАЗВІЦЦЯ

Сустрэчы ў Маскве павінны надаць новы імпульс Саюзу Беларусі і Расіі, у жыццядзейнасці якога неабходна пачаць новы этап. «Ва ўсякім разе я еду ў Маскву вырашаць выключна палітычныя праблемы. Эканамічныя рашэнні ўжо былі прыняты, цяпер іх трэба выконваць». Такую заяву зрабіў ля трапа самалёта прэзідэнт Беларусі перад вылетам у Маскву. Ён падкрэсліў таксама, што народы Беларусі і Расіі не даруюць кіраўнікам дзвюх дзяржаў, калі не спыніцца «балбатня вакол Саюза» і не пачнецца рэальная справа. Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што гэта магчыма. Асабліва яго надзеі звязаны з прэм'ер-міністрам Расіі Яўгенам Прымаковым, прыход якога на гэту пасаду адразу ўнёс новае дыханне ў «саюз дзвюх».

Разам з тым, без разгляду самых вострых эканамічных праблем візіт, безумоўна, не абыдзецца. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, 16 снежня на сустрэчы прэзідэнта Беларусі са старшынёй Цэнтрабанка Расіі Віктарам Герашчанкам размова пойдзе аб узаемаразліках паміж Беларуссю і Расіяй, пагашэнні запазычанасці нашай краіны перад Расіяй і іншых фінансавых пытаннях. Акрамя таго, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, на гэтай сустрэчы будзе закранута пытанне, якое датычыць адзінай валюты.

Гэтыя і іншыя праблемы эканамічнага, палітычнага і фінансавага характару будуць абмеркаваны таксама на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з Яўгенам Прымаковым. Дарэчы, згодна са зменена́й праграмай візіту, кіраўнік дзяржавы будзе сустракацца з кіраўніком расійскага ўрада двойчы.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, акрамя сустрэчы з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, якая адбудзецца ў чацвер, у пятніцу Аляксандр Лукашэнка правядзе перагаворы з міністрам унутраных спраў Сяргеем Сцяпашыным.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**



*Зноў адліга...*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ЗАБОЙСТВА БЕЛАРУСАЎ: СЛЕДЧЫЯ ПРАЦУЮЦЬ НАД ДЗВЮМА ВЕРСІЯМІ ТРАГЕДЫІ

«На расследаванне крывавай трагедыі ў Ярцаўскім раёне кінуты ўсе лепшыя нашы сілы», — аб гэтым заявіў карэспандэнту «Звязды» намеснік пракурора па следству Смаленскай вобласці Сяргей Пятухоў.

Па словах Сяргея Аляксеевіча, на сённяшні дзень праваахоўныя органы праводзяць абходы ўсіх населеных пунктаў, візіт, знаходзяцца ў межах 15 кіламетраў ад месца забойства: вядзецца пошук сведак. Як удалося высветліць карэспандэнту газеты, у следства мацца дзве асноўныя версіі па забойству грамадзян нашай рэспублікі. Адна з гэтых версій прапанавана беларускімі следчымі. Усе падрабязнасці расследавання захоўваюцца ў сакрэце. Праўда, у следства маюцца важкія падставы для таго, каб сцвярджаць, што гэтае злачынства ў хуткім часе будзе раскрыта.

**Ігар ГРЫШЫН.**

*ХАРЧОВЫЯ ЧУТКІ*

## У ДЭФІЦЫТУ ВОЧЫ ВЯЛІКІЯ

**Дэфіцыт асноўных прадуктаў харчавання ў нашай краіне апошнім часам парадзіў некалькі жудасных чутак.**

У прыватнасці, па Мінску вось ужо каторы дзень ходзіць чутка, што прадаўшчыца сталічнага універсама «Палессе» скончыла жыццё самагубствам пасля таго, як была аштрафавана на 12 мільёнаў рублёў за ўтойванне пад прылаўкам трох пакетаў смятаны. Прычым з кожным днём гэтая жудасная гісторыя дапаўнялася новымі падрабязнасцямі аб гаротным жыцці пакінутых пасля смерці гандляркі немаўлятак. Вядома ж, «Звязда» не магла пакінуць па-за ўвагай гэтую гісторыю.

Каб даведацца падрабязнасці, я патэлефанаваў пракурору Ленінскага раёна сталіцы Аляксею Стуку. Менавіта на тэрыторыі гэтага раёна размешчаны універсам «Палессе». Нават не даслухаўшы майго пытання, Аляксей Канстанцінавіч зразумеў, у чым справа. Аказваецца, не я адзін тэлефанаваў, каб даведацца падрабязнасці жудаснага самазабойства прадаўшчыцы. Па словах Аляксея Стука, уся гэтая гісторыя кімсьці выдумана, у Ленінскім раёне такога самазабойства не было. Наогул, пракурор быў вельмі здзіўлены, чаму менавіта універсам «Палессе» фігуруе ў гэтай чутцы. Апошнім часам у Ленінскім раёне за парушэнне правілаў гандлю былі аштрафаваны тры прадаўцы, але ніхто з іх ва універсаме «Палессе» не працаваў.

Не мелі звестак пра факты самазабойства гандляркі і ў Міністэрстве ўнутраных спраў. Але адзначылі, што да іх таксама даходзілі такія чуткі. Вось дзе ўжо, сапраўды, у дэфіцыту, як і ў страху, вочы вялікія.

Дарэчы, пакуль рыхтаваўся гэты матэрыял, па Мінску папаўзлі чуткі аб тым, што ў чарзе за яйкамі памерла адна жанчына. На шчасце, і гэтая інфармацыя не пацвердзілася.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

*СКАНДАЛ*

## РАЙВЫКАНКАМАЎСКІ ЧЫНОЎНІК ПАДАЗРАЕЦЦА Ў ХАБАРНІЦТВЕ

Супрацоўнікамі сталічнага ўпраўлення па арганізаванай злачыннасці сумесна з работнікамі пракуратуры днямі быў затрыманы адзін з намеснікаў кіраўніка адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска.

Па звестках «Звязды», райвыканкамаўскі чыноўнік падазраецца ў атрыманні хабару ў памеры 400 долараў. Менавіта ў такую суму ён ацаніў свае паслугі за станоўчае вырашэнне пытання аб выдзяленні месца пад камерцыйны шапік.

Зрэшты, трэба адзначыць, што гэта толькі папярэднія звесткі. Афіцыйнае абвінавачанне чыноўніку пакуль яшчэ не прад'яўлена. Таму мы абавязкова вернемся да гэтай скандальнай гісторыі і паведамім падрабязнасці.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**



«Адолеўшай лёс» — ордэн, якім была ўзнагароджана яшчэ ў былым СССР наша суайчынніца Ганна Іванаўна Трасцінская, заслужаны ўсім яе мужным жыццём. Інвалід з дзяцінства, нарадзіўшыся без абедзвюх рук, Ганна здолела пераадолець многія перашкоды — паспяхова скончыла сярэднюю школу, Белдзяржуніверсітэт, потым выкладала гісторыю дзецям, як і яна абдзеленым лёсам. Дзякуючы сіле духу, жаданню быць неабходнай людзям Ганна Іванаўна навучылася вышываць, але робіць гэта пальцамі ног. Мастацкія работы Ганны Трасцінскай дэманстраваліся на многіх выстаўках.

Нядаўна яна выканала і падарыла сваю работу Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. Днямі па даручэнню Прэзідэнта адказныя работнікі Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь наведалі Ганну Іванаўну і ўручылі ёй удзячнае пісьмо Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі і памятныя сувеніры.

**На здымку:** адказныя работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ніна Паўлаўна Марчанка (злева) і Валерый Маркавіч Харавец у час наведвання Ганны Іванаўны Трасцінскай.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ЗАКОН АБ ВЫБАРАХ ПРЫНЯТЫ, ЖЫЛЛЁВЫ КОДЭКС АДХІЛЕНЫ

Галоўным дасягненнем пленарнага пасяджэння Палаты прадстаўнікоў у мінулы аўторак стала канчатковае прыняцце праекта Закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў». На мінулым тыдні ён быў адхілены па прычыне таго, што дэпутацкі корпус не дасягнуў згоды адносна мінімальнага ўдзелу выбаршчыкаў у галасаванні для таго, каб выбары адбыліся.

Кіраўнік краіны пагадзіўся з тым, каб у другім туры асноўнага і паўторнага галасавання маглі ўдзельнічаць 25 працэнтаў выбаршчыкаў. Было прапанавана вельмі прынцыповае дапаўненне ў артыкул 33, з якім у выніку пагадзілася большасць парламента. Такім чынам, права вылучаць кандыдатамі ў дэпутаты і быць абранымі ў мясцовыя Саветы пазбавіліся грамадзяне, якія былі асуджаны адміністрацыйным судом. Супраць такой папраўкі ў парламенце выказаліся толькі сем чалавек.

У другім чытанні 16 снежня быў прыняты і Закон аб амністыі. Згодна з дакументам, у бліжэйшыя шэсць месяцаў на волю выйдуць 8,3 тысячы зняволеных, а для 25 тысяч тэрмін «адсідкі» будзе зменшаны на адзін год. У выніку амністыі эканомія сродкаў дзяржаўнага бюджэту складзе 72 млрд. рублёў.

Дапаўненні і змяненні, унесеныя Палатай прадстаўнікоў у Крымінальны, Крымінальна-Працэсуальны і Папраўча-працоўны кодэксы па сутнасці далі тлумачэнне такому паняццю, як «пажыццёвае зняволенне». Пералічаны выпадкі прымянення пажыццёвага зняволення, а таксама такога віду пакарання, як пазбаўленне волі на тэрмін 25 гадоў і менш.

Ну а галоўнай няўдачай аўторка можна лічыць адхіленне праекта Жыллёвага кодэкса. Хаця ў цэлым заўваг у дэпутатаў не было, асобныя нормы праекта выклікалі ажыўленыя спрэчкі. У прыватнасці, частка парламентарыяў выступіла супраць таго, каб грамадзянам Беларусі было дазволена валодаць неабмежаванай колькасцю жылля. Намеснік Камісіі па пытаннях эканомікі Васіль Хрол як ні пераконваў сваіх калег, што гэтая норма не супярэчыць Канстытуцыі і заканадаўству, усё роўна перамагла большасць дэпутатаў. У адрозненне ад Жыллёвага без усякіх праблем у гэты дзень быў адобраны Паветраны кодэкс.

А серада пачалася з абмеркавання ў першым чытанні законапраекта «Аб гуманітарнай дапамозе», які прадставіў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і цалкам рэгламентуе гэтую сферу дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый Беларусі і замежжа.

Дзень 16 снежня быў вельмі адказным для дэпутата Аляксандра Свірыда, намесніка старшыні Камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах. Учора ў другім чытанні быў прыняты праект Закона «Аб псіхіятрычнай дапамозе і гарантыях правоў грамадзян пры яе аказанні». Гэты даволі спецыфічны дакумент ад пачатку і да канца быў распрацаваны А. Свірыдам.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ТРАГІЧНАЯ СМЕРЦЬ

**У аўторак, 15 снежня, у сваёй кватэры загінула А. Кобзырава — старшыня прафкама Баранавіцкага бавоўнянага аб'яднання.**

Хто задушыў 57-гадовую жанчыну, невядома. Яна жыла адна ў аднапакаёвай кватэры. Той факт, што яна адчыніла дзверы, дае падставы думаць, што гэтае злачынства мог учыніць хтосьці з блізкіх ці знаёмых. Ва ўсякім разе, следства адпрацоўвае і такую версію. У кватэры быў парадак, але прапала золата і некаторыя рэчы.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ЦЯПЕР АБ МАЗЫРСКАЙ СОЛІ БУДУЦЬ ВЕДАЦЬ І НА БАЛКАНАХ

З добрымі працоўнымі поспехамі сустракае Новы год калектыў адкрытага акцыянернага таварыства «Мазырсоль» Гомельскай вобласці.

Паводле папярэдніх даных, прадпрыемства выпусціць за 1998 год 290 тысяч тон солі, што значна перавышае планавыя паказчыкі.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

*УСМІХНЕМСЯ!*

*Суд. Жанчына абвінавачваецца ў забойстве мужа.*

*— Значыць, вы падсыпалі атруту у суп і пачаставалі яго? Як гэта здарылася?*

*— Ён сеў за стол і добра павячэраў.*

*— І вы не адчулі дакорау сумлення?*

*— Адчула... Калі ён папрасіў дабаўкі.*

•

*— Эй, паліцэйскі, пяць хвілін таму рабаўнік зняў з мяне гадзіннік!*

*— Чаму ж вы раней не паклікалі на дапамогу?*

*— Я баяўся раскрыць рот — у мяне чатыры залатыя зубы.*

## «ЗВЯЗДА-99»: ПАДПІШЫЦЕСЯ СЁННЯ!

З гэтымі словамі мы звяртаемся сёння ў першую чаргу да тых нашых чытачоў, хто не паспеў ці не змог выпісаць «Звязду» раней. Справа ў тым, што па просьбе рэдакцыі **РА «Белпошта» працягнула падпісную кампанію да 19 снежня ўключна.** Хацелася б, каб на працягу гэтых трох дзён вы знайшлі магчымасць і час зайсці на пошту і аформіць падпіску на сваю «Звязду», якая, спадзяёмся, з'явіцца добрым дарадцам і шчырым сябрам для кожнай сям'і. Прынамсі, журналісты газеты імкнуцца, каб гэта было сапраўды так, каб у вашую хату разам са «Звяздой» прыходзілі дабро і чалавечнасць, цеплыня і спакой.

**Кошт падпіскі на месяц:**

***для індывідуальных падпісчыкаў — 48 тысяч рублёў (індэкс 63850);***

***для арганізацый — 150 тысяч рублёў (індэкс 63239);***

***на тры месяцы — 144 і 450 тысяч рублёў адпаведна.***

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 16 СНЕЖНЯ 1998 г. (па стану на 10.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 210000 | 230000 | 131000 | 138600 | 10300 | 11300 | 276-95-31 |
| «Славнефтебанк» | 219000 | 230000 | 132000 | 138600 | 10800 | 11400 | 216-23-91 |
| Афіцыйны курс Нацыянальнага банка РБ | 100000,00 | | 60320,91 | | 4890,00 | | Курс на 17.12.1998 |
| Курс, устаноўлены НБ РБ | 220000,00 | | 132706,56 | | 10680,00 | | |
| Цэнтрабанк Расіі (Масква) | 20,6200 | | 12,4427 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 23
## Аб унясенні дапаўненняў у Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1997 г. № 1

У мэтах удасканалення ўстаноўленага парадку прыцягнення да адказнасці за правапарушэнні ў сферы валютных аперацый і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь *п а с т а н а ў л я ю :*

1. Унесці ў падпункт 2.6 пункта 2 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1997 г. № 1 «Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 4, арт.132; 1998 г., № 4, арт. 74) наступныя дапаўненні:

абзац першы пасля слоў: «дзяржаўным падатковым органам» дапоўніць словамі: «органам фінансавых расследаванняў»;

пасля абзаца чацвёртага дапоўніць падпункт абзацам наступнага зместу:

«органаў фінансавых расследаванняў — начальнікі тэрытарыяльных органаў фінансавых расследаванняў і іх намеснікі».

2. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго апублікавання, з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*15 снежня 1998 г., г.Мінск.*

## УРАД ПРЫМАЕ КАНКРЭТНЫЯ МЕРЫ ДЛЯ НАРМАЛІЗАЦЫІ СІТУАЦЫІ НА СПАЖЫВЕЦКІМ РЫНКУ

**Шэраг важных для народнай гаспадаркі рэспублікі пытанняў быў разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў нашай краіны 15 снежня. Сярод іх — Праграма развіцця Беларускай чыгункі да 2010 года. Па ацэнках членаў ўрада, яна ўяўляе сабой стратэгічны комплекс мераў па нарошчванню аб'ёмаў работ, паляпшэнню эканамічных паказчыкаў.**

У парадак дня пасяджэння было таксама ўключана пытанне аб ходзе выкананння Мінгандлем указанняў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі, рашэнняў Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Беларусі і ўрада па нармалізацыі сітуацыі на спажывецкім рынку і задачах па забеспячэнню стабільнай работы гандлёвай сеткі ў 1999 годзе. Як адзначалася ў ходзе абмеркаванняў, апошнім часам устанавілася больш цеснае ўзаемадзеянне Мінгандлю з міністэрствамі і канцэрнамі, адказнымі за выпуск тавараў народнага спажывання. Напрыклад, узгоднены ўмовы па дадатковай пастаўцы ў гандлёвую сетку да канца года двух мільёнаў адзінак трыкатажных вырабаў, аднаго мільёна пар панчошна-шкарпэтачных вырабаў, больш як 11 тысяч тэлевізараў, 300 тысяч квадратных метраў дыванковых вырабаў, 2,7 тысячы пральных машын і шэрагу іншых неабходных насельніцтву тавараў.

Крыху горш ідуць справы на харчовым рынку краіны. Да гонару Мінгандлю і Белкаапсаюза, у самыя сціслыя тэрміны арганізавана дадатковая пастаўка ў гандлёвую сетку трох тысяч тон мукі пшанічнай, дзвюх тысяч тон круп, па 0,5 тысячы тон алею і курыных кумпячкоў, удалося завезці і іншыя тавары на агульную суму 1,35 трыльёна рублёў. Нямала намаганняў прыкладзена таксама прадпрыемствам «Белбакалея» з мэтай дадатковага ўвозу мукі, рысу і круп.

У мэтах стрымлівання росту цэн на тавары крытычнага імпарту памер гандлёвай надбаўкі на гэтыя тавары зніжаны з 30 да 15 працэнтаў. Гандлёвая надбаўка ў рознічным гандлі на сацыяльна значныя харчовыя тавары (з улікам аптовага звяна) таксама не перавышае 15 працэнтаў.

Аднак, як адзначалася на пасяджэнні, з-за невыканання Мінсельгасхарчам заявак гандлю, па-ранейшаму маюць месца перабоі ў забеспячэнні гандлёвай сеткі ялавічынай, свінінай, мясам птушкі, варанымі каўбаснымі вырабамі, яйкамі. Прадстаўнікам аблвыканкамаў, якія прымалі ўдзел у пасяджэнні, прыйшлося адказваць за нездавальняючае выкананне рашэння Прэзідыума Саўміна ад 9 лістапада 1998 года адносна выканання графікаў штодзённай пастаўкі ў гандлёвую сетку сталіцы пэўнай колькасці прадуктаў харчавання.

Сярод першачарговых мераў па стабілізацыі становішча на прадуктовым рынку рэспублікі прынята рашэнне аб больш жорсткім кантролі за работай мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў. Ім катэгарычна забаронены збыт мясапрадуктаў розным камерцыйным структурам. Іншымі словамі, урад рэспублікі мае намер зрабіць усё магчымае для хутчэйшай стабілізацыі абстаноўкі на спажывецкім рынку і выхаду з узнікшай сітуацыі. Як неаднаразова падкрэсліваў у сваіх заўвагах па ходу абмеркавання прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, урад ніколі не дапусціць зварочвання на заганны шлях «уяўнай стабілізацыі» за кошт рэзкага павышэння цэн на прадукты, калі яны могуць стаць проста недаступныя для рабочага чалавека і маламаёмных слаёў насельніцтва.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ШТАБ УЗЯЎ ПАД КАНТРОЛЬ АРГАНІЗАЦЫЮ ХАРЧАВАННЯ ДАШКОЛЬНІКАЎ І ВУЧНЯЎ

Аб тым, як арганізавана харчаванне ў дзіцячых дашкольных установах, дзіцячых дамах, інтэрнатах, школах, тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах, ішла прынцыповая размова на Рэспубліканскім штабе пры Прэзідэнце краіны. Чарговае пасяджэнне яго адбылося пад кіраўніцтвам Міхаіла Мясніковіча — кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта.

На пасяджэнні было адзначана, што з боку рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных і гаспадарчых органаў праведзена пэўная работа па арганізацыі харчавання дашкольнікаў і навучэнскай моладзі. Аднак у гэтай важнай дзяржаўнай справе ёсць шэраг істотных недахопаў і нявырашаных праблем. У прыватнасці, Мінгандаль, Белкаапсаюз і Мінсельгасхарч не прынялі дастатковых мераў па аптымальнаму забеспячэнню прадуктамі ўстаноў адукацыі, наладжванню іх прамых паставак ад таваравытворцы. Гэтыя і іншыя пралікі прывялі да перабояў у забеспячэнні вучнёўскіх сталовых асобнымі відамі мясной і малочнай прадукцыі, яйкамі, рыбай, садавінай, а таксама выклікалі неабгрунтаванае падаражанне харчавання.

Штаб даручыў Савету Міністраў да 1 студзеня 1999 года перагледзець і прывесці ў адпаведнасць з ростам цэн грашовыя нормы расходаў на харчаванне ва ўстановах адукацыі. У далейшым гэта неабходна будзе рабіць паквартальна. Не пазней чым 1 мая наступнага года ўрад абавязаны распрацаваць і зацвердзіць рэспубліканскую праграму па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў рэспублікі для арганізацыі харчавання дзяцей дашкольнага ўзросту, вучняў і студэнтаў у адпаведнасці з дзеючымі нормамі на перыяд 1999—2005 гадоў.

Штаб указаў міністрам гандлю, сельскай гаспадаркі і харчавання, адукацыі, старшыні праўлення Белкаапсаюза на адсутнасць належнай патрабавальнасці ў вырашэнні пытанняў, звязаных з арганізацыяй харчавання ў сістэме адукацыі. Ім даручана ў самы сціслы тэрмін ліквідаваць хібы.

Камітэту дзяржаўнага кантролю прапанавана ўзмацніць кантроль за арганізацыяй харчавання дашкольнікаў і навучэнскай моладзі.

Канкрэтныя ўказанні даў штаб аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму. Яны павінны прыняць меры для таго, каб харчаванне навучэнскай моладзі стала таннейшым за кошт сродкаў таваравытворцаў і мясцовых бюджэтаў. «Вертыкалі» рэкамендавана таксама прадоўжыць практыку поўнага або частковага вызвалення ад выплаты за харчаванне вучняў з малазабяспечаных сем'яў і іншых школьнікаў, якія маюць вострую патрэбу ў матэрыяльнай падтрымцы, у межах сродкаў, што накіроўваюцца на зніжэнне кошту харчавання.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

## УМОВЫ ПРАЦЫ І БЫТУ ПРАЦАЎНІКОЎ «БЕЛАРУСЬКАЛІЯ» ПАВІННЫ БЫЦЬ ПАЛЕПШАНЫ

Прэзідэнт краіны А. Р. Лукашэнка 14 снежня прыняў старшыню Мінскага аблвыканкама М. Дамашкевіча. Былі разгледжаны раней не вырашаныя пытанні, узнятыя кіраўніцтвам і працоўным калектывам ВА «Беларуськалій». А. Р. Лукашэнка даў даручэнне Міністэрству сацабароны Рэспублікі Беларусь вывучыць пытанне аб змяненні існуючага парадку вылічэння сярэдняга заробку і памераў пенсій працуючых на работах з асабліва шкоднымі і небяспечнымі ўмовамі працы і ў 10-дзённы тэрмін унесці канкрэтныя прапановы прэзідэнту краіны.

**БЕЛТА.**

## ВА ЎЗАЕМААДНОСІНАЎ БЕЛАРУСІ І ЮГАСЛАВІІ АДЗІН «РУХАВІК» — НАРОД

Перспектывы ўзаемаадносінаў Беларусі і Югаславіі актыўна абмяркоўваюцца ў абедзвюх краінах. Ішла аб іх размова і ў час сустрэчы, якую правёў 15 снежня прэзідэнт нашай рэспублікі Аляксандр Лукашэнка з членамі афіцыйнай дэлегацыі СРЮ, якія прымаюць ўдзел у Днях югаслаўскай культуры, што праходзяць цяпер у Беларусі.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ І АРАБСКАЯ РЭСПУБЛІКА ЕГІПЕТ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ АДНА Ў АДНОЙ

Шляхі развіцця гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі і Арабскай Рэспублікі Егіпет былі разгледжаны на сустрэчы кіраўніка нашай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі дзелавых колаў гэтай краіны на чале са старшынёй Савета дырэктараў кампаніі «Като Араматык Груп» панам Ібрагімам Камелем.

«Мы разглядаем Егіпет як моцнага партнёра ў прасоўванні нашых інтарэсаў у Паўночнай Афрыцы і можам прадставіць інтарэсы гэтай дзяржавы тут, у цэнтры Еўропы, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Сёлета тавараабарот паміж дзвюма краінамі склаў каля 60 мільёнаў долараў ЗША. З беларускага боку пэўныя кантакты наладжваюцца ў МАЗа, МТЗ, завода колавых цягачоў і іншых буйных прадпрыемстваў рэспублікі».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## МІЦКЕВІЧ ПРАГУЧАЎ У БУХАРЭСЦЕ

**У год слаўнага юбілею паэтычнае слова Адама Міцкевіча гучыць не толькі ў Польшчы, Беларусі, але і ў іншых краінах далёкага і блізкага замежжа. 14 снежня ва ўтульнай прэстыжнай зале прэзідэнцкага палаца Катрачэнь у Бухарэсце адбыўся вечар паэзіі, прысвечаны 200-годдзю Адама Міцкевіча. Яго наладзіла Пасольства Польшчы ў Румыніі. У зале сабраліся прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Румыніі, Кабінета Міністраў, міністэрстваў, паслы многіх краін, супрацоўнікі дыпламатычных місій, творчая інтэлігенцыя.**

Мудрыя і таленавітыя творы вялікага паэта прагучалі на вечары ў выкананні міністра культуры Румыніі Іона Карамітру, пасла Польшчы Багуміла Люфта, румынскіх артыстаў.

На вечары адбылася таксама прэзентацыя кнігі «Пан Тадэвуш», выдадзенай па-польску, па-беларуску і па-руску Беларускім фондам культуры да юбілею Адама Міцкевіча ў выдатным афармленні народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. Цёплае слова пра беларускую зямлю, якая дала свету Міцкевіча, пра беларуска-польскія культурныя кантакты сказаў пасол Польшчы Б. Люфт.

Пасол Беларусі ў Румыніі Анатоль Бутэвіч расказаў прысутным пра святкаванне юбілею Міцкевіча ў нашай рэспубліцы, пра памятныя мясціны на беларускай зямлі, звязаныя з імем выдатнага майстра слова, пра выданні яго твораў і гісторыю перакладу на беларускую мову «Пана Тадэвуша». З цікавасцю ўспрымалі прысутныя весткі аб аднаўленні радавой сядзібы Міцкевіча. Пасол прадставіў таксама новае юбілейнае выданне «Пана Тадэвуша», расказаў пра працу перакладчыка Пятра Бітэля, мастака Васіля Шаранговіча.

А пасля ў чуйнай цішыні цудоўнай залы прагучала беларускае слова, слова той зямлі, якая запачаткавала і выпеставала магутны паэтычны талент Міцкевіча і якая з кожным годам усё больш дбайна збірае і захоўвае памяць пра славутага земляка — пасол прачытаў урывак з несмяротнага «Пана Тадэвуша».

Так у дзіўны вянок славы зліліся польская, беларуская, румынская мовы, на якіх паэзія Міцкевіча гучала натхнёна, горда, свабодна.

**А. БАЯРСКІ.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.23 | 15.48 | 7.25 |
| Віцебск – | 8.21 | 15.31 | 7.10 |
| Магілёў – | 8.12 | 15.38 | 7.26 |
| Гомель – | 8.01 | 15.43 | 7.42 |
| Гродна – | 8.37 | 16.05 | 7.28 |
| Брэст – | 8.29 | 16.14 | 7.45 |

### МЕСЯЦ

*МАЛАДЗІК 19 СНЕЖНЯ*

*З 5.45 — 29-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Стральца.*

### ІМЯНІНЫ

*Пр. Варвары, Ульяны, Генадзя*
*К. Алімпіі, Лазара, Фларыяна*

### НАДВОР'Е

***Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночных раёнах ападкі, слабы галалёд. Вецер заходні, 5—10 м/сек.***

***Тэмпература паветра ў Мінску, Віцебску, Магілёве — 0—2, Гомелі — 1—3, Гродне, Брэсце — 2—4 градусы цяпла.***

***У наступныя двое сутак воблачна, 18-га — без істотных ападкаў, туман; 19-га — у паўночна-заходніх раёнах ападкі, слабы галалёд. Вецер заходні, 9—14 м/сек. Тэмпература ўначы — мінус 2 — плюс 3, удзень — 2—7, 19-га — 0—5 градусаў цяпла.***

## КАРОТКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ПРАВЯДЗЕННІ 28 СНЕЖНЯ 1998 Г. ПАЎТОРНАГА АЎКЦЫЁНУ ПА ПРОДАЖЫ АБ'ЕКТАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ УЛАСНАСЦІ З ВЫКАРЫСТАННЕМ МЕТАДУ ПАНІЖЭННЯ ПАЧАТКОВАЙ ЦАНЫ

***Аўкцыён адбудзецца 28 снежня 1998 г. у 11.00 па адрасу: г. Мінск, вул. Мяснікова, 39, малая зала, 2-гі паверх.***

***Для ўдзелу ў аўкцыёне запрашаюцца юрыдычныя асобы ўсіх формаў уласнасці і фізічныя асобы.***

Для ўдзелу ў аўкцыёне неабходна ў тэрміны, указаныя ў інфармацыйным паведамленні, прадставіць на адрас арганізатара аўкцыёну (Міндзяржмаёмасць) дакументы, апублікаваныя ў поўным інфармацыйным паведамленні ў газеце «Рэспубліка» ад 10 лістапада 1998 г., газеце «Нерухомасць Беларусі» ад 17 лістапада 1998 г.

Для ўдзелу ў аўкцыёне сума закладу складае 111,0 млн. руб. Унясенне закладу дае права на ўдзел у таргах па ўсіх аб'ектах, што выстаўляюцца на аўкцыён.

**Грашовыя сродкі пералічваюцца на разліковы рахунак Міндзяржмаёмасці № 3622000000905 у ОПЕРУ АСБ «Беларусбанк» у г. Мінску, код 795.**

Заявы з усімі неабходнымі дакументамі на ўдзел у аўкцыёне прымаюцца па адрасу: г. **Мінск, вул. Мяснікова, 39, пакой 642 з 9.00 да 17.00 па рабочых днях па 24 снежня ўключна.**

***Кантактныя тэлефоны арганізатара аўкцыёна: 220-88-47; 226-48-41.***

У выпадку перамогі на аўкцыёне пераможца абавязаны вярнуць затраты на падрыхтоўку і правядзенне аўкцыёна ў памеры 4 працэнтаў пачатковай цаны аб'екта.

Усім жадаючым удзельнічаць у аўкцыёне прадастаўляецца магчымасць папярэдне азнаёміцца з аб'ектамі ў тэрмін да 24 снежня 1998 г.

***Акрамя гэтага пераліку аб'ектаў, на аўкцыён выстаўляюцца аб'екты, апублікаваныя ў газеце «Звязда» ад 26 лістапада 1998 г.***

### Перечень объектов республиканской собственности, выставляемых на повторный аукцион 28 декабря 1998 г. с использованием метода понижения начальной цены

| № п/п | Наименование объекта | Продавец и его юридический адрес | Местонахождение и адрес объекта | Начальная цена продажи, млн. руб. | Минимальная цена продажи, млн. руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Административное здание с холодной пристройкой | АП «Белорусское управление механизации», г. Минск, ул. Казинца, 24а | г. Полоцк, ул. Суворова, 64 | 235,6 | 70,7 |
| 2. | Здание бывшего магазина | ЖКУ ПО «Гомсельмаш», г. Гомель, ул. Шоссейная, 41 | г. Гомель, ул. Рабочая, 26 | 1 878,7 | 375,8 |
| 3. | Здание бывшего общежития | РПТО «Красный Октябрь», г. Речица, ул. Наумова, 131 | г. Ветка, ул. Ленина, 26 | 258,7 | 52,0 |
| 4. | Здание бывшего общежития | РПТО «Красный Октябрь», г. Речица, ул. Наумова, 131 | г. Ветка, ул. Ленина, 26а | 1 214,3 | 243,0 |
| 5. | Здание бывшей аптеки № 104 с пристройкой | Областное производственное предприятие «Фармация», г. Гомель, ул. Катунина, 24 | г. Гомель, ул. Правды, 26 | 294,5 | 59,0 |
| 6. | Здание бывшей аптеки № 76 с пристроенными к нему сараем, гаражом и погребом | Дочернее предприятие «Центральная районная аптека № 53», Гомельская область, г. Речица, ул. Советская 93а | Гомельская обл., Речицкий район, г. Василевичи, ул. Козлова, 10 | 117,3 | 105,6 |
| 7. | Незавершенные строительством здания и сооружения станции технического обслуживания | Гомельское областное предприятие автомотосервиса и торговли, г. Гомель, ул. Федюнинского, 8 | н. п. Защебье Речицкого района Гомельской области | 1 263,2 | 252,7 |

*З нагоды 60-гадовага юбілею «Звязда» адрасуе шчырыя віншаванні мастаку* ***Эдуарду АГУНОВІЧУ*** *і зычыць здароўя і новых творчых удач.*

**Агульнае становішча на ўнутраным спажывецкім рынку краіны зараз стабільнае, ёсць асобныя недахопы і пэўныя перабоі. Менавіта такую танальнасць імкнуўся надаць сустрэчы з журналістамі ў Міністэрстве гандлю яго кіраўнік Пётр Казлоў. Пачынаючы размову, спадар міністр, у прыватнасці, зазначыў: «Канешне, сітуацыя напружаная, ёсць перабоі з асобнымі таварамі. І ў той жа час я не стаў бы моцна драматызаваць сітуацыю, таму што на працягу апошніх двух-трох месяцаў, нягледзячы на тое, што адбыўся абвал на спажывецкіх рынках у іншых краінах, усё ж такі ў нас такога абвалу не адбылося». Далейшая гутарка была прысвечана пералічэнню доказаў таго, што падстаў для хвалявання адносна становішча на ўнутраным спажывецкім рынку няма.**

**Міністр гандлю Пётр КАЗЛОЎ:**

# «НА ЎНУТРАНЫМ СПАЖЫВЕЦКІМ РЫНКУ ЁСЦЬ ПРАБЛЕМЫ,

## АЛЕ НЯМА ПАДСТАЎ ДРАМАТЫЗАВАЦЬ ПАДЗЕІ»

### Выбралі ўсё і нават больш

Па словах Пятра Казлова, за 11 месяцаў гэтага года гандаль практычна выбраў гадавыя аб'ёмы айчынных тавараў, пры тым, што ў лістападзе-снежні на прылаўкі магазінаў дадаткова паступіць 2 мільёны адзінак трыкатажных вырабаў, 1 мільён пар панчошна-шкарпэтачных вырабаў, 300 тысяч кв. метраў дывановых вырабаў, 11,5 тысячы штук тэлевізараў, на 500 мільярдаў рублёў мэблі, скургалантарэйных вырабаў, посуду і іншых тавараў. Гандлёвыя прадпрыемствы дадаткова па розных каналах знайшлі нехарчовых тавараў амаль на 1,5 трыльёна рублёў. Тое ж і ў дачыненні да харчовых тавараў: дадаткова ў лістападзе-снежні было закуплена 3 тысячы тон пшанічнай мукі, больш як 2 тысяч тон розных круп, па 500 тон алею і курыных кумпячкоў. Іншых харчовых тавараў гандаль дадаткова змог паставіць на 1,35 трыльёна рублёў.

У апошнія месяцы Міністэрства гандлю было занепакоена пастаянным скарачэннем таварных запасаў. Гэту небяспечную тэндэнцыю ўдалося пераадолець: з 1 лістапада па 1 снежня таварныя запасы павялічыліся на 4 дні і цяпер забяспечваюць 31 дзень гандлю, што адпавядае норме. «Самае галоўнае, што ўдалося зрабіць, — гэта не дапусціць раскручвання таго ажыятажнага попыту, які намячаўся ў верасні», — заявіў журналістам міністр гандлю.

### І закупіць, і цэны знізіць

«Што датычыць «крытычнага імпарту», то былі прыняты меры па закупцы гэтых тавараў. Для нас было важна не толькі закупіць, але і, няхай і нязначна, знізіць цану». У якасці прыкладу тут спадар Казлоў назваў закупкі мукі. Калі камерсанты прапаноўвалі яе па цане 70 тысяч рублёў за кілаграм, дык база «Белбакалея» здолела знайсці ва Украіне гэты ж тавар па 50 тысяч рублёў за кілаграм. «Добрае для нас рашэнне прыняў Нацыянальны банк, які дазволіў разлічыцца з літоўскай фірмай за грэцкія групы беларускімі рублямі. Гэта дасць магчымасць у нейкай ступені знізіць цэны», — заявіў Пётр Казлоў. Такім чынам да нас трапіць 2 тысячы тон грэцкіх круп, што дазволіць забяспечыць бесперабойны гандаль імі на працягу двух месяцаў. На аптовую базу ўжо прыбылі першыя партыі — 120 тон.

Усяго аптовыя прадпрыемствы сістэмы Міністэрства гандлю заключылі кантракты на пастаўку з Расіі і Украіны 10 тысяч тон мукі вышэйшага гатунку, 3,5 тысячы тон рысу і грэцкіх круп, 2 тысяч тон алею.

Выдзяленне валютнага крэдыту, на думку спецыялістаў міністэрства, можа істотна паўплываць на даволі высокі ўзровень цэн, які склаўся на тавары «крытычнага імпарту», у бок іх змяншэння. Дарэчы, і гандаль пайшоў на зніжэнне гандлёвай надбаўкі на гэтыя тавары з 30 да 15 працэнтаў.

### І ніякага рэзкага павелічэння цэн...

Як падкрэсліў Пётр Казлоў, на нядаўнім пасяджэнні Савета Міністраў было дакладна сказана, што ніякага рэзкага павелічэння цэн быць не павінна. Маўляў, перабоі трэба выпраўляць павелічэннем паставак у гандлёвую сетку тавараў. Далей на працягу сустрэчы з журналістамі міністр яшчэ неаднойчы вяртаўся да гэтай тэмы. Напрыклад, калі гаварыў пра забяспечанасць насельніцтва курынымі яйкамі. «Я хачу, каб вы мяне правільна зразумелі. Высокая цана на яйкі, магчыма, у параўнанні з заработнай платай, але, зыходзячы з рэальнага курса, які сёння склаўся, яна нізкая. Дзесятак яек у нас каштуе сёння па гэтаму курсу 20—30 цэнтаў — гэта менш, чым у іншых краінах». На думку спадара Казлова, з аднаго боку тут дакладная пазіцыя — ніякага павелічэння цэн, з другога — хібы ў цэнаўтварэнні трэба неяк выпраўляць.

Скажам, гаворачы пра год наступны, міністр зазначыў, што па многіх групах тавараў на будучае сфарміраваны рэсурсы з вялікім запасам. Разам з тым нават гэтыя аб'ёмы не задаволяць патрэбы насельніцтва ў дзіцячым абутку, трыкатажных, панчошна-шкарпэтачных вырабах і іншым, калі не будуць павялічаны цэны. «Калі адбудзецца карэкціроўка ў цэнах, гэтых вырабаў будзе дастаткова для нармальнага, а не ажыятажнага забеспячэння насельніцтва», зазначыў міністр. «Гаварыць аб высокім узроўні жыцця неяк не даводзіцца, але мы даём тавары — іх раскупляюць». Відаць, цэны змяняцца ўсё ж будуць, праўда, напачатку — нязначна.

### Масла, цукар, маргарын, мяса, цыгарэты

З 12 снежня гандлю была дадзена магчымасць закупляць мяса — свініну і ялавічыну — у насельніцтва па дагаворных цэнах. Вядома, сталічны гандаль пачаў звяртацца ў іншыя рэгіёны, але напачатку мясцовыя ўлады ў некаторых абласцях перашкаджалі вывазу прадукцыі за іх межы. Цяпер, здаецца, сітуацыя нармалізавалася: на прылаўках сталічных магазінаў з'явілася мяса (яго кошт месцамі даходзіць да 400 тысяч рублёў, таму, вядома, ніякіх чэргаў няма, цана не нашмат меншая, чым на рынках. — **С.Р.**).

Маргарынавы завод прастойваў з красавіка-мая, з цяжкасцямі працаваў і гомельскі тлушчакамбінат. Дзякуючы валютным сродкам, выдзеленым пад набыццё сыравіны, прадпрыемствы пачалі даваць прадукцыю. Працэнтаў 70 яе будзе рэалізоўвацца на ўнутраным рынку, астатняе пойдзе ў Расію, каб зарабіць грошы на набыццё сыравіны.

Апошнім часам Міністэрства гандлю вымушана рэгуляваць паступленне ў гандлёвую сетку масла, заявіў Пётр Казлоў. Напрыклад, па Мінску штомесячна адпускаецца 1000 тон масла, што складае 500 грамаў на кожнага жыхара, уключаючы немаўлят. Для нармальнага спажывання гэтага дастаткова, таму ў далейшым міністэрства будзе забяспечваць больш «рацыянальнае выкарыстанне створаных запасаў».

Да канца гэтага года будзе выдзелена і 10 тысяч тон цукру. Увогуле ж яго аб'ёмы на IV квартал сёлетняга і I квартал будучага года складаюць 80 тысяч тон. Да таго ж, ёсць і цукар-сырэц.

Танных айчынных цыгарэт не хапае. Гродзенская тытунёвая фабрыка пры гадавой квоце ў 8 мільярдаў штук выпусціла толькі 6,8 мільярда штук цыгарэт, яшчэ 500 мільёнаў штук дадало прадпрыемства «Тытунь-Інвест». Дзве фірмы-імпарцёры закупілі цыгарэты — «Беламорканал», «Прыму», «Астру» — ва Украіне, але цэны на іх будуць, відаць, большымі, чым на прадукцыю Гродзенскай тытунёвай фабрыкі. Надзея ёсць, што з цягам часу айчынны «Тытунь-Інвест» зможа давесці выпуск цыгарэт да 3 мільярдаў штук у год. Хаця цэны тут таксама будуць больш высокімі.

### «Перабоі, якія ёсць»

Міністр назваў дзве прычыны перабояў: па-першае, недапастаўкі ў гандаль пэўных харчовых тавараў, па-другое, вываз прадукцыі за межы краіны і ажыятажны попыт насельніцтва. «Ёсць гадавы баланс, а мы пераелі прадуктаў на пачатку года, у сярэдзіне. У лістападзе-снежні прадпрыемствы Мінсельгасхарча тавары ў поўным аб'ёме не пастаўлялі». Фактычна пастаўка ялавічыны і свініны ў снежні складае па краіне 76 працэнтаў ад планавага задання. Не змянілася да лепшага і становішча з мясам птушкі: прадпрыемствамі «Белптушкапрама» за 11 месяцаў недапастаўлена 6 тысяч тон мяса, прычым доўг за прадпрыемствамі Мінскай вобласці складае 3,7 тысячы тон. У Мінску застаецца складаным становішча з забеспячэннем насельніцтва курынымі яйкамі і мясам птушкі. Сярэднядзённая пастаўка яек не перавышае 80 працэнтаў ад плана, а мяса птушкі на мінскія холадакамбінаты пастаўляецца не больш як 5 тон пры плане 25 тон у дзень, ды і то рэалізацыя ідзе пераважна праз фірменную сетку «Белптушкапрама». Па словах спадара Казлова, у перадсвяточныя дні «Белптушкапрам» павялічыць пастаўкі ў гандаль яек.

### Новы год, новы год...

Традыцыйна з 25 снежня ў краіне пачнуць працаваць выставы-продажы кандытарскіх і кулінарных вырабаў, святочныя кірмашы. Будзе арганізавана 160 ёлачных кірмашоў, на якіх плануецца прадаць 230 тысяч ёлак. У перадсвяточныя і святочныя дні прадпрыемствы гандлю павялічаць рэжым работы.

Рэалізацыя айчыннага шампанскага пачнецца з 20 снежня, усяго гандаль назапасіў больш як 2 мільёны бутэлек. Летась, па словах міністра, рэсурсы па пеністаму напою складалі 900—950 тысяч бутэлек. Рознічная цана, як мяркуецца, будзе 350—360 тысяч за бутэльку (падчас накаплення цана на шампанскае павялічвалася некалькі разоў). Назапашана таксама 1200 тон кандытарскіх вырабаў.

«Напярэдадні Новага года мы былі занепакоены не тым, што нашы дзеці застануцца ўвогуле без цукерак, а тым, што застануцца без танных цукерак», — сказаў Пётр Казлоў. Ні «Спартак», ні «Камунарка» шакаладных цукерак не выпускалі з-за адсутнасці какававых зярнят. Дзякуючы выдзеленым валютным сродкам фабрыкі пачалі даваць патрэбную прадукцыю. Па словах міністра, ужо скамплектавана 2 мільёны падарункаў, якія прададзены прадпрыемствам. Разам з тым, прадоўжыў далей Пётр Казлоў, у свабодным продажы адносна танных шакаладных цукерак будзе, відаць, недастаткова. Праўда, жадаючыя змогуць без праблем набыць дарагія расійскія ці літоўскія цукеркі.

### Сталы заказаў

«Магчыма, гэта і вяртанне ў нейкай ступені да старога, але ў сённяшняй сітуацыі мы вяртаемся да сталоў заказаў». Робіцца гэта з мэтай стварэння насельніцтву дадатковых умоў па набыццю неабходных тавараў. Сталы заказаў будуць арганізаваны на прамысловых прадпрыемствах, у будаўнічых арганізацыях, ва ўстановах. На сённяшні дзень адкрыта і працуе ўжо больш за 200 такіх кропак па забеспячэнню людзей усім неабходным непасрэдна па месцы работы.

### «Картак не будзе»

Міністр гандлю агучыў ужо вядомы факт аб тым, што рашэннем Віцебскага аблвыканкама ў самім абласным цэнтры, Полацку і Наваполацку ўведзены продаж масла па спісах. Як вынікала са слоў Пятра Казлова, гэта была вымушаная мера. «Рэгуляванне павінна быць, але я не думаю, што такая мера, як увядзенне картак, спісаў і г.д., прымальная для такога горада, як Мінск». Аб увядзенні іх увогуле не можа ісці гаворкі, зазначыў далей міністр. «Тыя меры, якія прымаюцца, дадуць магчымасць нармальна забяспечыць насельніцтва».

### Гандаль за валюту

На сённяшні дзень, у рэчышчы прынятых раней дакументаў аб дазволе гандлю імпартнымі таварамі за валюту, 99 секцый магазінаў вядуць гандаль за СКВ. Яшчэ 28 жадаючых падалі заявы аб аналагічным дазволе. На думку Пятра Казлова, абысціся без гандлю за СКВ немагчыма. «Каб сабраць валюту, каб яна працавала не на ценявым рынку, такі гандаль патрэбны». Хаця, гэта таксама адзначыў спадар міністр, у палажэнні аб гандлі за валюту шмат недахопаў.

Акрамя абавязковага продажу дзяржаве СКВ, выплаце ўсіх неабходных плацяжоў у валюце, скажам, каб таму ж ГУМу гандляваць за долары, яму патрэбна самастойна заключаць дагаворы на пастаўку прадукцыі ў Германіі, Японіі і г.д. Таму палажэнне аб гандлі за валюту трэба ўдасканальваць.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...***

## ...У СТАЛІЦЫ ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ КОЛЬКАСЦЬ ХАРЧОВЫХ АТРУЧЭННЯЎ

**Не сакрэт, што дэфіцыт шэрагу харчовых прадуктаў і рост цэн на іх прымусіў многіх беларусаў назапашваць гэтыя тавары ў сваіх хатніх «кладоўках».**

Дзеля аб'ектыўнасці трэба заўважыць, што гэта з'ява для нашага грамадства не новая — аналагічная сітуацыя назіралася ў рэспубліцы і на пачатку 90-х гадоў. З той толькі розніцай, што на сённяшні дзень людзі імкнуцца дадаткова стварыць яшчэ і запас малочных прадуктаў, а таксама яек, якія, напрыклад, у сталічных магазінах сустракаюцца толькі эпізадычна...

У аддзеле гігіены харчавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, куды мы звярнуліся за высвятленнем колькасці «ахвяр» прадуктовага дэфіцыту, нам паведамілі, што трывожных вестак аб росце колькасці ў Мінску харчовых атручэнняў, звязаных з ужываннем у ежу недабраякасных прадуктаў, да іх пакуль не паступала. У той жа час кожны, хто купляе ў магазіне малочных прадуктаў больш, чым можа спажыць за некалькі дзён, павінен ведаць, што малочныя прадукты — хуткапсавальныя і для назапашвання непрыдатныя. Так, пастэрызаванае малако, вяршкі і кефір могуць захоўвацца пры тэмпературы ад +2 да +6 градусаў — 36 гадзін, сыракваша — 24 гадзіны, смятана — 72, тлусты і абястлушчаны тварог — 36, сялянскі 5-працэнтны тварог — 24 гадзіны. «Мінай» замаруджанага дзеяння могуць стаць і каўбасныя вырабы: да 72 гадзін можна захоўваць толькі вараныя каўбасы вышэйшага гатунку і вяндліну, усе ж астатнія вараныя, ліверныя, крывяныя каўбасы трэба спажыць на працягу 24—48 гадзін. Да «доўгайгральных» можна з нацяжкаю аднесці толькі яйкі, бо іх можна захоўваць у халадзільніку да 30 дзён.

Пры парушэнні ўмоў і тэрмінаў захоўвання хуткапсавальных прадуктаў, папярэджваюць спецыялісты, у іх могуць размнажацца мікраарганізмы, якія выклікаюць псаванне прадуктаў і здольны выклікаць харчовыя бактэрыяльныя атручэнні і вострыя кішэчныя захворванні. Так што ў чутак, якія ходзяць па мінскіх чэргах, падставы ўсё ж ёсць...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



**Хвост гэтай чаргі за свінінай у фірменным магазіне саўгаса-камбіната «Сож» у Гомелі цягнецца з адной вуліцы на другую.**

## ЦІ БУДЗЕ Ў РАБАЎНІКОЎ МАСЛЕНІЦА?

Гэтае пытанне сёння на вуснах жыхароў Буда-Кашалёўскага раёна. З мясцовага камбіната кааператыўнай прамысловасці, а дакладней з яго базы, «улятучылася» 15 тон жывёльнага масла і сыроў. Як гэта было, раніцай расказалі тры вартаўнікі базы.

Па іх словах, чацвёра маладых хлопцаў, па выгляду 20—27 гадоў, пагражаючы фізічнай расправай і надаваўшы кухталёў, звязалі іх і праніклі на тэрыторыю базы. Там яны зрэзалі дужкі навяснога замка і прыступілі да работы ў халадзільніку, з якога забралі ўказаныя вышэй прадукты, загрузіўшы імі «КАМаз», і зніклі. Уся «аперацыя» прайшла з гадзіны ночы да пяці гадзін раніцы.

Вартаўнікі асаблівых прымет рабаўнікоў не змаглі назваць, бо тыя былі ў масках. Міліцыяй уводзіўся спецплан «Перахват», аднак ён вынікаў пакуль не даў. Узбуджана крымінальная справа. Няўжо ў рабаўнікоў будзе масленіца?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПАГАРЭЛІ НА ВАЛЮЦЕ

Незаконныя здзелкі з замежнай валютай прыносяць адпаведным спецыялістам не толькі «навар», але і сур'ёзныя непрыемнасці. У чарговы раз гэта пацвердзілася 10 снежня ў Лідзе.

У раёне гандлёвага цэнтра і цэнтральнага рынку супрацоўнікі УКДБ па Гродзенскай вобласці затрымалі шасцярых мясцовых жыхароў, у якіх канфіскавана 170 мільёнаў 640 тысяч беларускіх рублёў, 1077 амерыканскіх долараў, 290 нямецкіх марак і каля 800 літаў. Грошы пойдуць у даход дзяржавы, а «валютчыкі» ў дадатак яшчэ і аштрафаваны, адзін з іх, магчыма, будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## У МЕТРО «ЧП» НЕ АДБЫЛОСЯ?..

**Пазаўчарашняя вячэрняя паездка на метро, несумненна, надоўга запомніцца многім жыхарам сталіцы і яе гасцям, якія рашылі пакарыстацца паслугамі «падземкі» ў так званы «час пік».**

Пасля 17 гадзін на лініі «Маскоўская—Інстытут культуры» ў бок апошняй станцыі каля паўгадзіны не было ніводнага цягніка. Народ нерваваўся ў чаканні транспарту, раз-пораз паглядваючы ў бок тунеля, і яго погляд губляўся ў цемры.

Аўтар гэтых радкоў таксама стаміўся ў чаканні падземнага транспарту на «Акадэміі навук» і вымушаны быў падняцца наверх і сесці ў тралейбус. І не толькі з-за таго, што зняверыўся ў тым, што вагоны ўсё ж такі падыдуць да перона. Проста людзей на станцыі назбіралася столькі, што яблыку не было дзе ўпасці.

Логіка падказвала, што нават калі цягнікі раптам пойдуць, захоўваючы 3-хвілінны інтэрвал руху на станцыях у гэты час, то «прасачыцца» ў вагон удасца не хутчэй чым з пятага заходу. Да таго ж, наперадзе ўсіх стомленых чаканнем пасажыраў чакаў прыпынак побач з Камароўскім рынкам, а там людзі з кошыкамі, мяхамі, сумкамі, калясками...

Між тым, з боку дзяжурнай па станцыі і міліцыі «падземкі» ніякіх тлумачэнняў не было.

Учора карэспандэнту «Звязды» ўдалося высветліць прычыну парушэння графіка руху. Па словах галоўнага інжынера Мінскага метрапалітэна Мікалая Андрэева, сапраўды, з-за тэхнічнай няспраўнасці цягніка метро на станцыі «Маскоўская» прыйшлося затрымаць рух саставаў на гэтай лініі амаль на 20 хвілін. Прыкладна ў 17.10 машыніст цягніка, які павінен быў «падагнаць» састаў да перона, выявіў, што машына «заглухла» і не паддаецца кіраванню. Прыйшлося тэрмінова выклікаць дапаможны цягнік, каб вызваліць лінію метро. Уся аперацыя па замене цягнікоў заняла 17 хвілін. Астатнія хвілін 15—20 былі страчаны падчас «штурму» вагонаў...

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## 32 ПРАЦЭНТЫ АПЫТАНЫХ ЖЫХАРОЎ БЕЛАРУСІ І 46 ПРАЦЭНТАЎ МІНЧАН ДЗЯКУЮЧЫ ГАЗЕТНАЙ РЭКЛАМЕ РОБЯЦЬ НЕАБХОДНЫЯ ІМ ПАКУПКІ

У ходзе даследавання, праведзенага сацыялагічнай службай «Зеркало» інфармацыйнай кампаніі БелаПАН з 18 па 30 лістапада, тысячы жыхарам Беларусі ва ўзросце ад 18 гадоў і старэй было прапанавана адказаць на пытанне: «ЦІ ЗВЯРТАЕЦЕ ВЫ ЎВАГУ Ў ГАЗЕТАХ НА РЭКЛАМНЫЯ АБ'ЯВЫ?»

Як паказала апытанне, дзве трэці (66 працэнтаў) рэспандэнтаў па рэспубліцы і 77 працэнтаў — у Мінску праяўляюць цікаваць да рэкламных матэрыялаў. Каля адной трэці (31 працэнт) апытаных па краіне і 22 працэнты — па Мінску на газетную рэкламу ўвагі не звяртаюць.

Астатнім было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

Практычна кожны трэці (32 працэнты) рэспандэнт па рэспубліцы і амаль кожны другі (46 працэнтаў) па Мінску з ліку тых, хто цікавіцца рэкламнымі аб'явамі, зрабілі дзякуючы гэтай рэкламе пакупкі.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

**На мінулым тыдні адбылося пасяджэнне рэспубліканскага клуба дырэктараў, у якім таксама прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства эканомікі і Нацыянальнага банка і асобных міжнародных арганізацый у краіне, у тым ліку Сусветнага банка. Зразумела, дырэктары прысвяцілі сваю вялікую сходку абмеркаванню найбольш актуальных, найбольш набалелых эканамічных праблем. Зрэшты, адзін з удзельнікаў гэтай сходкі выказаўся напрыканцы яе наступным чынам: «спусцілі пару...»**

# ПРЫВАТНЫЯ ПРАБЛЕМЫ АСОБНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ НЕЛЬГА ПАСПЯХОВА ВЫРАШАЦЬ БЕЗ ВЫРАШЭННЯ АГУЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ

**ПРА ЎСЁМАГУТНУЮ бухгалтэрыю, або пра спецкурс Нацбанка.** Не аднойчы дырэктары прыгадвалі наступную, на жаль, даволі папулярную ў нашых абставінах фразу: хацелі як лепей, а атрымалася як заўсёды. Пры гэтым на ўвазе мелася апошняе рашэнне Нацбанка аб спецкурсе нацыянальнай валюты і даведзеныя ў сувязі з гэтым рашэннем пэўныя асаблівасці бухгалтарскага ўліку, што паставіла нават моцныя і дзеяздольныя да апошняга часу прадпрыемствы на мяжу банкруцтва. У прыватнасці, дырэктар «Пінскдрэва» Ларан Арыніч прадставіў дакладны эканамічны разлік, з якога вынікала, што прадпрыемства з 400-мільярдным прыбыткам у адзін момант «набыло» замест гэтага каля 300 мільярдаў рублёў страт. Уся справа ў тым, што на прадпрыемства паступаюць у немалой колькасці імпартныя сыравіна і матэрыялы, пры гэтым яно атрымлівае іх без усякіх фінансавых гарантый, словам, мае (ці хутчэй — мела) свайго роду беспрацэнтны таварны крэдыт. Гэты крэдыт, які цяпер належыць пераацаніць па новаму спецкурсу з аднясеннем курсавой розніцы на ўласныя сродкі, і нашкодзіў... Акрамя таго, для прадпрыемства набягае салідная, больш чым 70-мільярдная, сума дадатковых падаткаў — ужо пры ўліку яго дэбіторскай валютнай запазычанасці, павялічанай на велічыню, на якую ўзрос той жа спецкурс (а ён узрос амаль у тры разы). Карацей, дзяржава падобным чынам атрымлівае дадатковыя сродкі ў бюджэт, а прадпрыемства церпіць страты, прычым можа страціць і свой імідж перад замежнымі партнёрамі, якія да гэтага часу цалкам даверале яму... Пра падобную ж сітуацыю, якая склалася пасля ўвядзення спецкурса, гаварылі і кіраўнікі гомельскай фабрыкі 8 Сакавіка, жлобінскага аб'яднання «БелФА» і інш. Пры гэтым дырэктар «БелФА» прывёў яшчэ і наступныя разлікі, ужо звязаныя з тым, наколькі новая сітуацыя стымулюе (вядома, у двукоссі) экспарт. Цяпер пры атрыманні валютнай выручкі, перараліку яе ў рублі па спецкурсу НБ і наступным налічэнні на гэту выручку падаткаў апошнія ўзрастаюць, адпаведна, амаль у 3 разы. Калі пры гэтым улічваць таксама тое, што экспарцёры па-ранейшаму павінны абавязкова прадаваць 40 працэнтаў сваёй валютнай выручкі на біржы па афіцыйнаму курсу (падкрэслім: ужо не па спецкурсу, а менавіта па афіцыйнаму, які амаль у 3 разы ніжэйшы), — займацца экспартам, як зазначыў кіраўнік «БелФА», не мае сэнсу. І ўжо, па яго сведчанню, асобныя прадпрыемствы, у тым ліку і «БелФА», спынілі экспарт.

Вось такія нечаканыя наступствы выклікаў новы нацбанкаўскі дакумент. Пры гэтым кіраўнікі разгублена разводзілі рукамі: самі ж дабіваліся набліжэння валютнага курса да рэальнага... Праўда, пры гэтым выявілася (па словах прадстаўніка НБ), што «гэта папера» нарадзілася за паўтара дня, што ўвогуле праблемы не будзе, калі змяніць асаблівасці бухгалтарскага ўліку... Магчыма, і зменяць, толькі наўрад ці ад гэтага страціць сваю вастрыню наступнае пытанне, сфармуляванае прадстаўнікамі дырэктарскага корпуса: калі нарэшце пры выпрацоўцы пэўных рашэнняў на макраўзроўні будуць улічвацца ўсе магчымыя адпаведныя вынікі на мікраўзроўні?

***І пра экспарт асобна.*** Тое, што экспарт з'яўляецца ў нас аб'ектам асаблівай увагі з боку дзяржавы, гаварыць не трэба. Варта нагадаць: экспарт вылучаны адным з трох прыярытэтных напрамкаў. Але пры гэтым нельга не заўважыць і наступнага: часам экспарцёрам ну проста не па сабе ад асобных клопатаў ужо непасрэдна дзяржаўных чыноўнікаў. Яшчэ раз падкрэслім той факт, як адбіўся цалкам абгрунтаваны, але, відаць, не да канца прадуманы крок НБ па лібералізацыі валютнага рынку на экспарцёрах. І ў гэтым выпадку меў рацыю намеснік старшыні праўлення НБ Мікалай Лузгін, які пагадзіўся з кіраўнікамі прадпрыемстваў: калі ўжо пайшлі на пэўныя крокі па лібералізацыі, то трэба было ісці да канца, г. зн. ліквідаваць і абавязковы продаж 40 працэнтаў валюты па афіцыйнаму курсу НБ.

Экспарцёры страчваюць і з-за іншых рашэнняў. Прадстаўнікі дырэктарскага корпуса таксама падкрэсліваюць: без добрага імпарту няма і добрага экспарту. Гэта ўжо датычыць яўных абмежаванняў дзяржавай імпарту і пераарыентацыі прадпрыемстваў на задавальненне сваіх пэўных патрэб з унутранага рынку, хоць, відаць, у кожным выпадку павінна выбіраць само прадпрыемства, а дзяржава павінна забяспечыць якраз як мага больш шырокі выбар... На дырэктарскай «нарадзе» прагучала: паменей дэклараваць аб падтрымцы экспарцёраў, а менавіта здымаць на іх шляху ўсе магчымыя бар'еры.

***Што лепей вырабляць: макарону з мукі ці муку з макароны, або пра цэны.*** Пытанне цэн — адно з самых балючых на сённяшні дзень не толькі для радавога спажыўца, пакупніка, але і амаль для любога дырэктара. Пытанне — да немагчымага заблытанае, што дазваляе, як правіла, першаму з іх скардзіцца на высокія цэны, а другому на нізкія з аднолькавым поспехам, г. зн. з аднолькава важкімі аргументамі... Кіраўнік Барысаўскай фабрыкі макаронных вырабаў прывёў наступны аргумент: яго прадпрыемству было б выгадна сёння працаваць наадварот, г. зн. перапрацоўваць макарону ў муку і потым прадаваць менавіта муку — эфектыўнасць ад такой дзейнасці была б у два разы вышэйшая. Дакладней жа кажучы, менавіта ў столькі разоў больш каштуе сёння мука, чым выробленая з яе макарона. Вось такой дзіўнай дзейнасцю займаюцца ў Барысаве: замест таго, каб зарабляць грошы, — наадварот, беззваротна і безаглядна трацяць тыя сродкі, якія яшчэ ёсць. З пункту погляду капіталіста, бізнесмена — недаравальнае глупства, а з пункту погляду нашых органаў цэнаўтварэння — усё як мае быць. Карацей, барысаўчане выпускаюць сацыяльна значны тавар, яны — манапалісты і г. д., а значыць, павінны і разважаць адпаведна, а не катэгорыямі прыбытковасці і эфектыўнасці... А ў канчатковым жа выніку барысаўскую макарону скупляюць перакупшчыкі і перапрадаюць у тры разы даражэй, або па той цане, якую гатовы плаціць спажывец (і, дарэчы, усё тут цалкам лагічна). Адпаведна, даходы лічаць перакупшчыкі, барысаўчане — страты. Іх нясе і дзяржава, якая не атрымлівае сваёй законнай долі ў бюджэт і іншыя фонды.

На вялікі жаль, прадстаўнік Камітэта па цэнах Аляксандр Курыльчык, запрошаны на дырэктарскі клуб, вельмі моцна спазніўся і не чуў аргументаў кіраўніка барысаўскага прадпрыемства. А калі ж прадстаўніку задалі пытанне, у якой эканоміцы мы працуем і як быць далей барысаўскаму прадпрыемству, ён гэтак абагульнена адказаў: маўляў, ад вас толькі і чуеш, што трэба павысіць цэны. І, маўляў, увогуле існуе ўказ аб павышэнні цэн не болей чым на 2 працэнты, яго ніхто не адмяняў, а Камітэт цэн праводзіць такую палітыку, каб было выгадна і прадпрыемству, і дзяржаве, прычым падыходзіць да ўсіх запытаў прадпрыемстваў узважана: некаму, магчыма, трэба і знізіць цэны, а некаму і павысіць, і не на 2 працэнты, а нават на 22... Шчыра кажучы, вельмі цікавая аргументацыя... Праўда, кіраўнік Баранавіцкага баваўнянага аб'яднання, відаць, ставячы пад сумненне ўзважанасць Камітэта, тут жа давёў сходу, што яго прадпрыемства некалькі разоў выходзіла з абгрунтаванымі прапановамі адносна абгрунтаванага ж павышэння цэн на сваю прадукцыю, ды так і не дачакалася адказу, а ў выніку, напрыклад, за кастрычнік атрымала 8 мільярдаў страт, хоць калектыў і працаваў добра. Пры гэтым для аб'яднання да апошняга часу складвалася ўвогуле дзіўная сітуацыя: на ўнутраным рынку нельга было нармальна прадаваць з-за нізкіх рублёвых цэн, на знешнім — ужо з-за высокіх валютных цэн (тут варта растлумачыць: аб'яднанне вымушана было прызначаць высокую валютную цану з-за нізкага афіцыйнага курса НБ — у адваротным выпадку, пры ніжэйшай цане, выручка здавалася б недастатковай, у чым пільны дзяржаўны чыноўнік мог бы ўгледзець асабістую карысць кіраўніцтва). Праўда, дзеля аб'ектыўнасці варта зазначыць: цяпер, пасля ўвядзення спецкурса, у аб'яднання рукі будуць крыху развязаны, разам з тым і прадстаўнік Камітэта цэн паабяцаў асабісты ўдзел.

Дарэчы, ён жа зазначыў і наступнае: калі цэны рэгулюе дзяржава, то яна ж павінна ўлічваць (для пэўнага прадпрыемства) неабходныя выдаткі і забяспечваць неабходны ж прыбытак... Хоць разам з тым яўна відавочна: найпершымі, як найбольш дасканалымі, рэгулятарамі цэн павінны выступаць попыт і прапанаванне, да чаго настойліва схілялі прадстаўніка Камітэта цэн прадстаўнікі дырэктарскага корпуса. І гэта, дарэчы, сведчыць аб іх большай гатоўнасці да адпаведных рэформаў.

***Пра курс, які мы выбіраем.*** Так, сённяшні курс (не проста нацбанкаўскі, а ўвогуле эканамічны курс) мае патрэбу ў яўнай істотнай карэкціроўцы. Як падкрэслівалася падчас пасяджэння клуба, прыватныя праблемы асобных прадпрыемстваў нельга паспяхова вырашаць без вырашэння агульных праблем. Пра ўсё гэта, а па сутнасці пра неабходнасць больш рашчага рэфарміравання эканомікі ў першую чаргу гаварылі прадстаўнікі міжнародных арганізацый у Беларусі. Зрэшты, іх пазіцыя добра вядомая. Разам з тым, відавочна, больш радыкальную пазіцыю выяўляе і Міністэрства эканомікі. У прыватнасці, намеснік міністра Андрэй Тур, які ахарактарызаваў становішча ў эканоміцы як вельмі складанае і вельмі цяжкае, які назваў цэлую галіну (сельскагаспадарчую) стратнай, — таксама за рэфарміраванне рэальнага сектара, за змяненні ў цэнавай і валютнай палітыцы. Сур'ёзнай ацэнкі, па словах А. Тура, патрабуе і тая крэдытная эмісія, якая ажыццяўляецца, пры гэтым, як падкрэсліваў ён, эмісійныя грошы не толькі не павышаюць каэфіцыента манетарызацыі эканомікі, на неабходнасць чаго нярэдка спасылаюцца, а яшчэ больш зніжаюць яго. Разам з тым, на думку А. Тура, нельга рэзка адпускаць цэны («многіх не далічымся»), рабіць іншыя рэзкія захады, мы, да таго ж, увогуле не вызначыліся па спецыялізацыі ў сусветнай нішы... Бліжэйшая задача — выраўноўванне макраэканамічных паказчыкаў, укараненне (па дамоўленасці з Сусветным банкам) механізмаў адраснай падтрымкі насельніцтва, больш жорсткія падыходы да бюджэтнай палітыкі. Прагноз А. Тура на наступны год «стрымана аптымістычны»: тэмпы росту — 5-6 працэнтаў, штомесячная інфляцыя — 4-5 працэнтаў...

Праўда, гэты прагноз — хутчэй аптымістычны... Як зазначыў на вялікай дырэктарскай «нарадзе» яшчэ адзін з эканамістаў, дырэктар Цэнтра стратэгічных ініцыятыў Леанід Заіка, 6 гадоў мы хадзілі па кругу і зноў вярнуліся ў 1992 год. Якім будзе наш канчатковы выбар, да чаго няўмольна падштурхоўвае цяперашняя, сапраўды складаная эканамічная сітуацыя?

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

# БЕЗ ВАЖКАЙ ДАПАМОГІ ДЗЯРЖАВЫ СКЛАДАНА БУДЗЕ ПЕРАЗІМАВАЦЬ

## Так лічаць спецыялісты сельскай гаспадаркі, прааналізаваўшы сітуацыю ў жывёлагадоўлі краіны

Жыццё вёскі... яно сёлета асабліва цяжкае і складанае. Такіх прыродных выпрабаванняў, што выпалі на долю вяскоўцаў, не прыпамінаюць нават старыя людзі. Кажуць, нават у машэраўскія гады, калі ўсёй грамадой кінуліся нарыхтоўваць галінкавы корм жывёле, было не так цяжка. Мабыць таму, што яшчэ не адчувалася недахвату сродкаў, адсутнічаў дыспарытэт цэн, адток кадраў на вёсцы. У дадатак да ўсяго — фінансава-эканамічны крызіс у Расіі, які значна ўскладніў сёння сітуацыю не толькі на сваім, але і на нашым спажывецкім рынку. Гараджане ў адно імгненне размятаюць з паліц крамаў малако, яйкі, масла, мяса... Яны, канстатую гэта без здзеклівасці, сутыкнуліся з сапраўднай прозай жыцця, якая апошнія некалькі гадоў для многіх здавалася проста паэзіяй. Але гэта жыццёвая проза яшчэ больш жорсткая ў вяскоўцаў. Ніколі не бачыў такім узрушаным і заклапочаным Яўгена Ракаўца, начальніка аддзела па племяннoй справе ў жывёлагадоўлі Мінсельгасхарча. Ён толькі што вярнуўся з камандзіроўкі па Віцебшчыне, дзе аналізаваў ход зімоўкі ў гаспадарках вобласці.

**— Чаму такі хмуры, Яўген Васільевіч? Няўжо так дрэнна выканалі гаспадаркі патрабаванне прэзідэнта аб навядзенні парадку на фермах?**

— Не сказаў бы. Памяшканні для ўтрымання жывёлы падрыхтаваны, уцеплены. Прымаюцца меры па дадатковаму завозу ў гаспадаркі кармоў: патакі, зерня, шротаў, камбікармоў. На закупку апошніх з бюджэту вобласці ў лістападзе выдзелена 40 мільярдаў рублёў. Рашэннем аблвыканкама ўсім раёнам даведзена заданне па нарыхтоўцы ў зімова-стойлавы перыяд галінавага корму, хвоі. Але гэтага недастаткова для паляпшэння харчовай каштоўнасці рацыёнаў жывёлы. Таму аб'ёмы вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі ў параўнанні з леташнім годам на працягу апошніх двух месяцаў знізіліся. Толькі вытворчасць свініны вядзецца ў больш інтэнсіўным рэжыме (прывагі свіней склалі 107 працэнтаў). Горш ідуць справы з вытворчасцю малака (95 працэнтаў да ўзроўню таго ж перыяду мінулага года), прывагамі буйной рагатай жывёлы (88 працэнтаў). Напрыклад, з 21 раёна вобласці ў пяці (Віцебскі, Браслаўскі, Гарадоцкі, Докшыцкі і Пастаўскі) вытворчасць малака вышэйшая, чым летась на гэты перыяд. Прадуктыўнасць кароў знізілася ва ўсіх раёнах, акрамя Віцебскага. Сёння сярэднясутачны надой малака ад каровы ў вобласці складае ўсяго 2,5—3 кілаграмы.

**— Вынікі, сапраўды, несуцяшальныя. Вядома, як жывёлу накорміш, такая і аддача ад яе будзе. Добры гаспадар імкнецца накарміць тую ж карову сенам, буракамі, камбікормам. На жаль, з-за дрэннага надвор'я не маюць магчымасці зрабіць гэта многія гаспадаркі. Час упушчаны. Магчыма, мэтазгодна было б больш настойліва прыцягваць да нарыхтоўкі кармоў і гараджан: агульнымі намаганнямі можна было б выхопліваць у непагадзі больш якасныя кармы...**

— Вы маеце рацыю. Галоўная прычына зніжэння прадуктыўнасці статка ў тым, што сёлета большасць гаспадарак і раёнаў вобласці нарыхтавалі менш кармоў, яны значна больш нізкай якасці. Напрыклад, сена назапашана толькі 55 працэнтаў да леташняга ўзроўню, з якога 12 працэнтаў аднесена да першага класа, 20 — да другога, 45 — да трэцяга, а астатняе — пазакласнае. Сенажу нарыхтавана не менш чым летась, але па якасці ён значна горшы: 39 працэнтаў яго лічыцца пазакласным. Ці ж будзе аддача з такім кармленнем?! Па сутнасці, у гаспадарках вобласці няма асноўнага энергетычнага і бялковага корму — зерня. Калі ў мінулую зімоўку на фуражныя мэты яго было выдзелена 172 тысячы тон, то цяпер — толькі 92 тысячы. Да канца зімоўкі на адну ўмоўную галаву жывёлы прыпадае ў суткі ўсяго 6,1 кармавой адзінкі. Пры вазе, напрыклад каровы, у 450—500 кілаграмаў ад такога кармлення, ды яшчэ пры вельмі нізкай якасці кармоў, немагчыма чакаць высокай прадуктыўнасці.

**— Проста катастрафічная сітуацыя вымалёўваецца. Такое ўражанне, што многія гаспадаркі самастойна не змогуць выкараскацца, не перазімуюць... Як дапамагчы ім?**

— Спачатку адзначу, што ў многіх гаспадарках краіны, дзе быў закладзены добры падмурак для росту вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі, і справы ідуць нядрэнна. Калі, напрыклад, у калгасе «Рассвет» імя Арлоўскага Кіраўскага раёна пачалі наводзіць парадак, калі добра накармілі жывёлу, то і паказчыкі палепшыліся: за 11 месяцаў у параўнанні з такім жа леташнім перыядам надой ад каровы тут павялічыўся на 1098 кілаграмаў і склаў 4171 кілаграм, на 1648 тон узрасла валавая вытворчасць малака. Высокія надоі малака ад каровы ў племзаводзе «Чырвоная зорка» Клецкага раёна (5324 кг), племзаводзе «Заказельскі» Драгічынскага раёна (4601 кг), ЗАТ «Адраджэнне» Віцебскага раёна (4140 кг), племсаўгасе «Брылёва» Гомельскага раёна (5140 кг), аграфірме «Сноў» Нясвіжскага раёна (5471 кг) і інш. На жаль, такіх гаспадарак у краіне мала. Большасць ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі. Як можа падняцца на ногі калгас імя Леніна Аршанскага раёна, дзе ад 460 кароў у суткі атрымліваюць толькі 1012 кілаграмаў малака (ад кожнай каровы надойваюць 2,2 кг у суткі)? За месяц на малочны завод ад гаспадаркі паступае (без уліку выкарыстанага малака на выпойванне цялят) 22 тоны прадукцыі. За яе калгас атрымае... усяго 122 мільёны рублёў. Паступленняў ад рэалізацыі іншай прадукцыі ў гаспадарцы не прадбачыцца. У той жа час калгаснікі атрымалі зарплату толькі за жнівень, запазычанасць яе за верасень складае 448 мільёнаў рублёў, а за кастрычнік — 427 мільёнаў. Не зроблены плацяжы за электраэнергію, ГЗМ, газ, падаткі і г. д. — усяго на 7,1 мільярда рублёў. Бензіну і дызпаліва ў гаспадарцы таксама няма. Кармы на ферму падвозяць на конях. Толькі 1,7 мільярда рублёў грашовых сродкаў маецца сёння на руханках 34 гаспадарак Аршаншчыны,у якой у вобласці самыя высокія аб'ёмы вытворчасці і рэалізацыі жывёлагадоўчай прадукцыі. Калі не дапамагчы такім гаспадаркам з набыццём кармоў, насельніцтва гарадоў не атрымае прадуктаў харчавання, а краіна згубіць значную колькасць жывёлы. Дапусціць гэтага нельга. Што рабіць? Адвечнае пытанне. Канешне, трэба выкарыстаць на поўную магутнасць усе тыя чалавечыя і тэхнічныя рэзервы, якія яшчэ, мяркую, маюцца на месцах. Але эканамічная сітуацыя сёння такая, што без дапамогі дзяржавы тут не абысціся.

Хтосьці скажа: зноў кілаграмы і літры, зноў новыя ўліванні ў сельскую гаспадарку. Магчыма. Але давайце не будзем дзяліць на белае і чорнае, на горад і вёску, давайце не звальваць усё на вяскоўцаў, калі мы хочам, каб і ў наступным годзе ў нас на стале было і мяса, і малако, і яйкі... Толькі агульнымі намаганнямі можна захаваць напрацаваны за апошнія гады сельскагаспадарчы патэнцыял краіны.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

***P.S.*** *У Віцебску адбылася пашыраная нарада з удзелам намесніка прэм'ер-міністра Аляксандра Папкова, міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Юрыя Мароза, старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Андрэйчанкі, кіраўнікоў райвыканкамаў вобласці, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, на якой сур'ёзна аналізавалася становішча ў жывёлагадоўлі, а таксама выпрацоўваліся канкрэтныя меры па выхаду з гэтай крытычнай сітуацыі.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні дапаўнення і змянення ў некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 лістапада 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 26 лістапада 1998 года*

**Артыкул 1.** Дапоўніць Закон Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1991 года «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт. 75; 1994 г., № 3, арт. 24) артыкулам $1^1$ наступнага зместу:

**«Артыкул $1^1$. Некаторыя асаблівасці выплаты падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў па дзейнасці замежных юрыдычных асоб**

Юрыдычная або фізічная асоба Рэспублікі Беларусь, якая прызнаецца для мэт падаткаабкладання згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь пастаянным прадстаўніцтвам замежнай юрыдычнай асобы, праз якое замежная юрыдычная асоба ажыццяўляе дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, праходзіць рэгістрацыю (становіцца на ўлік) у падатковых органах па месцы свайго знаходжання і ўтрымлівае з сум плацяжоў, якія належаць гэтай замежнай юрыдычнай асобе, падаткі і іншыя абавязковыя плацяжы, што падлягаюць выплаце ўказанай замежнай юрыдычнай асобай у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры неўтрыманні або несвоечасовым утрыманні падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў на пастаяннае прадстаўніцтва ўскладаецца адказнасць, устаноўленая заканадаўствам Рэспублікі Беларусь для плацельшчыкаў адпаведных падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў».

**Артыкул 2.** Выключыць частку апошнюю пункта 3 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1991 года «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт. 77; 1996 г., № 12, арт. 158).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*9 снежня 1998 года., г. Мінск,*
*№ 216-3*

# ІЛЬГОТЫ, ПЕНСІІ, ДАПАМОГІ...



ЗВЯЗДА
17 снежня 1998г. 5

**На пытанні чытачоў «Звязды» адказвае міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ**

*(Заканчэнне. Пачатак у нумары за 15 снежня.)*

**— Калі, нарэшце, змогуць атрымаць аўтамабілі інваліды І і ІІ груп?**

***Т. Я. Дубоўскі*** *(г. Слуцк),* ***А. М. Пінчук,*** *(г. Бабруйск),* ***У. А. Скрабец*** *(Ганцавіцкі р-н),* ***А. І. Валіцкі*** *(г. п. Мікашэвічы).*

— Без перабольшання, пытанне з забеспячэннем інвалідаў І і ІІ груп транспартнымі сродкамі на сёння ці не самае балючае. Справа не толькі ў тым, што аўтамабілі вельмі дарагія і іх кошт дасягае амаль 4 тысяч долараў. Існуе яшчэ адна перашкода — праблема з канверсаваннем нацыянальнай валюты. Буду шчырай: Запарожскі аўтазавод пры ўмове папярэдняй аплаты ў доларах ЗША мае магчымасць пастаўляць у Рэспубліку Беларусь неабходную колькасць аўтамабіляў «Таўрыя» для інвалідаў. На жаль, з-за адсутнасці валютных сродкаў на гэтыя мэты з кастрычніка гэтага года аўтамабілі «Таўрыя» з ручным кіраваннем у нашу краіну практычна не паступаюць. Зараз на ўзроўні дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь і Украіны разглядаюцца варыянты змянення формы аплаты за транспарт для інвалідаў. Я разам з вамі спадзяюся, што ў рэшце рэшт будзе знойдзена ўзаемапрымальнае рашэнне і пастаўка аўтамабіляў «Таўрыя» адновіцца.

**— Чаму так доўга выконваюцца заказы на выраб артапедычнага абутку? Чаму вельмі нізкай застаецца якасць гэтага абутку?**

***Н. Ц. Шамрук,*** *Клецкі р-н.*

— Несвоечасовы выраб артапедычнага абутку інвалідам, а таксама шматлікія нараканні на яго якасць тлумачацца тымі цяжкасцямі, якія адчувае Беларускі пратэзна-артапедычны аднаўленчы цэнтр з забеспячэннем скуртаварамі. Гарбарныя заводы не выконваюць заяўкі цэнтра, нярэдка пастаўляюць прадукцыю нізкай якасці, што ў выніку адбіваецца і на якасці артапедычнага абутку ў цэлым. Каб вырашыць гэту праблему, днямі наша міністэрства звярнулася да Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання з просьбай нарыхтаваць неабходную колькасць сыравіны на 1999 год непасрэдна для патрэб вытворчасці пратэзна-артапедычных вырабаў. Хацелася б верыць, што гэта просьба будзе задаволена.

**— Цікавіць такое пытанне: што ўваходзіць у абавязкі сацыяльнага работніка, які займаецца абслугоўваннем састарэлых грамадзян і інвалідаў на даму?**

***З. М. Баран,*** *г. Заслаўе.*

— Перш чым непасрэдна адказаць на пытанне, трэба заўважыць, што на надомнае абслугоўванне прымаюцца састарэлыя грамадзяне і інваліды, якія захавалі здольнасць да самаабслугоўвання і выканання хатняй работы. На сёння аддзяленні сацыяльнай дапамогі на даму не абслугоўваюць асоб, якія поўнасцю страцілі здольнасць да самаабслугоўвання і магчымасць рухацца. Зыходзячы з гэтага, Палажэннем аб аддзяленні сацыяльнай дапамогі на даму і вызначаны пералік паслуг, якія выконваюцца сацыяльнымі работнікамі. Такім чынам, сацыяльны работнік можа:

- набыць па вашай просьбе і даставіць на дом прадукты харчавання, гарачыя абеды, прамысловыя тавары першай неабходнасці;
- дапамагчы ўбраць памяшканне;
- прынесці ваду, выпаліць печ, аказаць дапамогу ў забеспячэнні палівам;
- аплаціць жыллё і камунальныя паслугі;
- здаць рэчы і прадметы хатняга ўжытку ў пральню, хімчыстку, рамонт;
- дапамагчы напісаць пісьмо, заяву, аформіць дакументы;
- пасадзейнічаць у рамонце жылля, апрацоўцы прысядзібнага участка;
- набыць лекі, выклікаць на дом урача, праводзіць у паліклініку, дапамагчы ў шпіталізацыі ў стацыянарныя ўстановы, а таксама наведваць вас у мэтах маральна-псіхалагічнай падтрымкі;
- аказаць дапамогу ў вырашэнні пытанняў пенсійнага забеспячэння, сацыяльных выплат, прадастаўлення льгот, атрымання юрыдычных кансультацый.

Паслугі, якія не ўваходзяць у гэты пералік, могуць аказвацца на ўмовах поўнай аплаты за іх у адпаведнасці з устаноўленымі для кожнага канкрэтнага раёна тарыфамі на платныя сацыяльныя паслугі.

**— Сама інвалід, але даглядаю жанчыну-інваліда І групы, якая ўжо пяць гадоў прыкаваная да ложка. Як вядома, зараз ва ўсіх крамах горада ўведзены строгія нормы продажу прадуктаў. Таму ў мяне прапанова: чаму б не зрабіць так, каб чалавеку, які даглядае інваліда, была прадастаўлена магчымасць набыць у краме лішні пакет малака ці слоік смятаны? У рэшце рэшт, я набываю прадукты адразу на дваіх...**

***Л. Ф. Скрыпка,*** *г. Мінск.*

— Ваша прапанова цалкам слушная. Я абяцаю Вам, Лілія Фёдараўна, што ў бліжэйшы час пастаўлю гэта пытанне перад гарадскімі ўладамі Мінска і перакананая, што яго ўдасца вырашыць.

**— Мая дачка інвалід І групы, жонка — інвалід ІІ групы. Сам пенсіянер, удзельнік вайны. Ці маю я права на надбаўку да пенсіі па догляду за інвалідамі?**

***В. Ф. Асецкі,*** *г. Бабруйск.*

— Спачатку нагадаю, што да пенсіі інвалідаў І групы ўстанаўліваюцца надбаўкі па догляду ў памерах: 100 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту — да працоўных пенсій і 50 працэнтаў мінімальнага памеру пенсіі па ўзросту — да спецыяльных пенсій.

Што датычыцца дапамогі па догляду за інвалідам І групы, то заканадаўствам прадугледжана прызначэнне гэтай дапамогі непрацуючай працаздольнай асобе, якая ажыццяўляе догляд за інвалідам, пры ўмове, што гэта асоба не працуе, не вучыцца, не атрымлівае пенсій і дапамогі па беспрацоўю. Паколькі Вы, Віктар Францавіч, атрымліваеце пенсію, на жаль, Вам не можа быць прызначана дапамога па догляду за дачкой-інвалідам І групы.

**— Даглядаю за дачкой інвалідам І групы, атрымліваю за гэта 280 тысяч рублёў. Як сёння можна пражыць на гэтыя грошы?**

***М. М. Хмарук,*** *Жыткавіцкі р-н.*

— Сапраўды, дапамогі па догляду за інвалідамі І групы невысокія. Яны пераразлічваюцца пасля змянення мінімальнай зарплаты і індэксуюцца ў сувязі з ростам цэн. Апроч таго, да іх выплачваецца штомесячная грашовая кампенсацыя. Каб хоць крыху падтрымаць гэтую катэгорыю грамадзян, Пастановай Савета Міністраў ад 19 лістапада г. г. было прынята рашэнне з 1 лістапада павялічыць памер кампенсацыі з 50 да 200 тысяч рублёў, якая выплачваецца непрацуючым працаздольным грамадзянам, што ажыццяўляюць догляд за інвалідам І групы і састарэлымі, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, а таксама кампенсацыі да сацыяльных пенсій непрацуючым асобам. Адпаведная даплата будзе зроблена адначасова з выплатай снежаньскіх пенсій і дапамог.

**— Якімі льготамі карыстаюцца інваліды І і ІІ груп па агульнаму захворванню?**

***Н. І. Герасіменка,*** *Петрыкаўскі р-н,* ***М. М. Гурскі,*** *г. Масты.*

— Для інвалідаў І і ІІ груп заканадаўствам устаноўлены наступныя льготы:

- 90-працэнтная скідка з кошту лекаў, якія набываюцца па рэцэптах урачоў;
- права на выраб і рамонт усіх відаў пратэзаў (за выключэннем зубных пратэзаў з каштоўных металаў) за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту ва ўстаноўленым парадку;
- права бясплатнага праезду на ўсіх відах гарадскога і прыгараднага транспарту (апроч таксі) незалежна ад месца жыхарства, а інваліды І і ІІ груп, якія пражываюць у сельскай, мясцовасці маюць таксама права бясплатнага праезду ў міжгародніх аўтобусах у межах свайго адміністрацыйнага раёна;
- 50-працэнтная скідка з кошту праезду на ўнутраных лініях паветранага, чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту з 1 кастрычніка па 15 мая і адзін раз — на працягу астатняй часткі года;
- права на бясплатную (інваліды І групы) або льготную (ІІ групы) устаноўку тэлефона па-за чаргой;
- права на атрыманне бясплатна ў парадку чаргі санаторна-курортнай пуцёўкі ў аддзеле сацыяльнай абароны па месцы пенсіяніравання.

Апроч таго, інвалідам І і ІІ груп, якія не маюць працаздольных членаў сям'і, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з аплаты жылой плошчы (у межах нормаў, прадугледжаных заканадаўствам), аплаце за карыстанне тэлефонам (апроч міжгародніх і міжнародных размоў), аплаце за камунальныя паслугі. Інваліды І і ІІ груп, што пражываюць у дамах, якія не маюць цэнтральнага ацяплення, валодаюць правам на 50-працэнтную скідку з кошту паліва ў межах усталяваных для насельніцтва нормаў.

Для інвалідаў І і ІІ груп прадугледжаны таксама льготы па падаткаапкладанню, забеспячэнню пратэзна-артапедычнымі вырабамі, інваліднымі каляскамі і іншымі сродкамі перамяшчэння, якія прадастаўляюцца з улікам прычыны інваліднасці і адпаведнага заключэння медыка-рэабілітацыйных экспертных камісій або лячэбна-прафілактычных устаноў.

**— Якія льготы распаўсюджваюцца на інваліда дзяцінства ІІІ групы па зроку?**

***В. В. Кохан,*** *Стаўбцоўскі р-н.*

— Інваліды дзяцінства ІІІ групы ад агульнага захворвання забяспечваюцца лекамі па рэцэптах урачоў з 50-працэнтнай скідкай з кошту. Вы маеце права на выраб і рамонт усіх відаў пратэзаў (апроч зубных пратэзаў з каштоўных металаў) за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку. Для інвалідаў ІІІ групы, апроч таго, прадугледжаны льготы па працы, забеспячэнню пратэзна-артапедычнымі вырабамі, інваліднымі каляскамі і г.д., якія прадастаўляюцца па заключэнню МРЭК ці лячэбна-прафілактычных устаноў.

І яшчэ. Непрацуючым інвалідам ІІІ групы з дзяцінства (мужчынам, што дасягнулі 60 гадоў, і жанчынам, што дасягнулі 55 гадоў), якія не маюць дзяцей або пражываюць асобна ад дзяцей і іншых сваякоў, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы ў межах прадугледжаных заканадаўствам нормаў, аплаце за карыстанне тэлефонам (за выключэннем міжгародніх і міжнародных размоў), аплаце камунальных паслуг, а тым, што пражываюць у дамах без цэнтральнага ацяплення — 50-працэнтная скідка з кошту паліва.

**— Зараз мне 50 гадоў, з іх 28 адпрацавала. Перанесла дзве аперацыі на вачах, атрымала ІІІ групу інваліднасці, працаваць далей не магу. Хацелася б даведацца, ці магу я выйсці на пенсію ўжо зараз?**

***А. А. Яжыноўская,*** *Докшыцкі р-н.*

— Правам на прызначэнне датэрміновай пенсіі па ўзросту (на 5 гадоў раней агульнаўсталяванага тэрміну) карыстаюцца інваліды з дзяцінства. Інваліды ад агульнага захворвання такога права не маюць.

**— Ці прадугледжаны якія-небудзь ільготы (апроч крэдыту) на набыццё тавараў працяглага карыстання для інвалідаў з дзяцінства?**

***Т. У. Каляда,*** *Валожынскі р-н.*

— На жаль, не. Паводле інфармацыі, якую нам паведамілі ў Міністэрстве гандлю, за выключэннем набыцця тавараў працяглага карыстання і бытавой тэхнікі ў крэдыт з растэрміноўкай плацяжу, ніякіх іншых ільгот для інвалідаў з дзяцінства не прадугледжана.

**— Як атрымаць ільготы, прадугледжаныя для ахвяр палітычных рэпрэсій? У маім пасведчанні аб нараджэнні памылкова быў зроблены запіс аб тым, што я нарадзілася ў Дзяржынскім раёне. На самай справе я нарадзілася ў Архангельскай вобласці — там знаходзіліся ў ссылцы мае бацькі.**

***М. М. Слонім,*** *г. Мінск.*

— Трэба мець на ўвазе, што вы можаце звярнуцца ў органы сацыяльнай абароны для разгляду пытання аб правах і перавагах, усталяваных для ахвяр палітычных рэпрэсій, толькі пасля выпраўлення запісу аб месцы нараджэння. Таму спачатку вам трэба накіравацца ў органы ЗАГСа з заявай аб выпраўленні запісу аб месцы нараджэння і дакументамі, якія пацвярджаюць, што на дзень вашага нараджэння бацькі сапраўды знаходзіліся ў ссылцы. Калі органы ЗАГСа адмовяцца ўнесці такое выпраўленне, неабходна звярнуцца ў суд па месцы жыхарства з іскам аб устанаўленні памылкі.

**— Прымаў удзел у саставе спецыяльных фарміраванняў у размініраванні вызваленых тэрыторый. Мне гарантаваныя правы і льготы, устаноўленыя для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, аднак пенсіі, як удзельніку вайны, мне не павышаюць. Чаму?**

***М. Ф. Шмань,*** *Гарадоцкі р-н.*

— Так, у адпаведнасці з Законам «Аб ветэранах» асобам, якія ў саставе спецфарміраванняў прымалі ўдзел у размініраванні вызваленых тэрыторый у 1943—1945 гадах, прадастаўляюцца льготы па аплаце жылплошчы, камунальных паслуг, лекаў, якія выдаюцца па рэцэптах урача, на атрыманне пазыкі для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва і інш. Зараз Міністэрствам сацыяльнай абароны падрыхтаваны праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб пенсійным забеспячэнні», у якім ёсць прапанова аб павышэнні пенсій гэтай катэгорыі грамадзян.

**— Калі ў нашай краіне салдаты 1927 года нараджэння, якія былі прызваны ў Савецкую Армію ў 1944 годзе і маюць медалі «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне», нарэшце атрымаюць статус удзельніка вайны?**

***Я. К. Закалінскі,*** *Мсціслаўскі р-н.*

— Літаральна ў лістападзе наша міністэрства перадало на разгляд у Савет Міністраў і Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу праект Закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб ветэранах». Гэтым праектам прадугледжаны статус ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны для асоб, узнагароджаных ордэнамі і медалямі СССР за самаахвярную працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады вайны, у тым ліку і для грамадзян апошняга ваеннага прызыву.

**— Мой сын інвалід. Ужо 2 гады ён праходзіць курс лячэння ў Лепельскім абласным дзіцячым санаторыі. Адкажыце калі ласка, ці павінна я атрымліваць на яго дапамогу, а таксама ці маю я права на адзін аплатны свабодны ад работы дзень у тыдзень?**

***Л. А. Мяцельская,*** *г. Капыль.*

— У сувязі з працяглым лячэннем дзіцяці ў санаторыі дапамога на яго не прызначаецца і не выплачваецца. Свабоднага ад работы дня ў тыдзень у вас таксама не будзе: згодна з артыкулам 167² КЗаПа вы маеце права на адзін свабодны ад работы дзень у месяц з аплатай сярэдняга дзённага заробку за кошт сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання.

**— Чаму нельга павялічыць норму продажу харчовых тавараў для мнагадзетных сем'яў?**

***Н. М. Арцюшэўская,*** *г. Асіповічы.*

— Рашэнне аб нормах водпуску харчовых і прамысловых тавараў прымаюць мясцовыя выканаўчыя органы. Таму я раю звярнуцца з гэтым пытаннем да іх: яны маюць права ўстанаўліваць ільготы для асобных катэгорый грамадзян.

**— Выхоўваю чацвярых непаўнагадовых дзяцей. З мужам развялася ў 1990 годзе. Летась яго пазбавілі бацькоўскіх правоў, зараз былы муж у вышуку. Ці належыць мне надбаўка да дапамог на дзяцей? І яшчэ адна праблема: дагэтуль не атрымала дапамогі на дзяцей за кастрычнік і лістапад...**

*Ельскі р-н.*

— Пазбаўленне бацькоўскіх правоў не вызваляе ад абавязкаў па ўтрыманню дзяцей. Аднак калі былы муж ухіляецца ад выплаты аліментаў і знаходзіцца ў вышуку, да дапамогі на дзяцей павінна быць прызначана 25-працэнтная надбаўка. Для гэтага трэба прадставіць даведку з міліцыі аб тым, шт ў месячены тэрмін з дня абвяшчэння вышуку месцазнаходжанне мужа не ўстаноўлена.

Што да несвоечасовай выплаты дапамог, то, на жаль, такія праблемы існуюць. Налічэнне і выплата дапамог робіцца адначасова з налічэннем і выплатай зарплаты. Калі ў прадпрыемства, арганізацыі ці ўстановы, дзе вы працуеце, няма сродкаў, кіраўнік (у вашым выпадку — старшыня калгаса) павінен звярнуцца ў раённае аддзяленне Фонду сацыяльнай абароны за атрыманнем датацыі на выплаты дапамог на дзяцей.

**— Адна выхоўваю пяцера дзяцей. На траіх (16, 15 і 12 гадоў) атрымліваю дапамогу як удава, на дваіх (1,7 года і 7 месяцаў) — як адзінокая маці. Якія зараз памеры гэтых дапамог?**

***В. С. Уласік,*** *Шчучынскі р-н.*

— Памеры дапамог на дзяцей да 3 гадоў для адзінокіх маці з прадугледжанай 25-працэнтнай надбаўкай складаюць 891 тыс. руб. працуючым і 509,1 тыс. руб. — непрацуючым жанчынам. З улікам індэксацыі памеры гэтых дапамог склалі ў кастрычніку адпаведна 1 млн. 513,1 тыс. і 907,2 тыс. рублёў. Дапамога на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 (18) гадоў усталявана ў памеры 305,5 тыс. рублёў. У кастрычніку, з улікам індэксацыі, яна склала 544,4 тыс. рублёў.

**— У мяне трое дзяцей: малодшым па 7 гадоў, старэйшаму — 10. На ўсіх іх я атрымліваю дапамогу крыху больш 1 мільёна рублёў. Чаму такія маленькія памеры дапамог на дзяцей і ці будуць яны пераразлічвацца?**

***Г. П. Расінская,*** *Лагойскі р-н.*

— На жаль, дзяржава не мае магчымасці поўнасцю ўзяць на сябе клопат аб матэрыяльным забеспячэнні дзяцей. Сэнс прызначэння дзяржаўных дапамог у тым, каб падтрымаць бюджэт сям'і ў цяжкі для яе перыяд, часткова аблегчыць цяжар матэрыяльных праблем.

Памеры дзяржаўных дапамог для дзяцей будуць па-ранейшаму індэксавацца з улікам інфляцыі. Чарговы пераразлік дапамог адбудзецца ў пачатку наступнага года.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# КРАСА І СІЛА

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

### Валеры МАРАКОЎ
**(1909—1937)**



Кожнаму аматару беларускай літаратуры вядома, як расквітнела нашая паэзія ў 20—30-я гады і як яна была знішчана амаль пад самы корань. Але сёння мала хто ведае, што адным з самых яркіх яе прадстаўнікоў з'яўляўся Валеры Маракоў, улюбёнец Янкі Купалы, кумір тагачаснай моладзі. Ужо першы ягоны зборнік «Пялёсткі», напісаны ў 14—16-гадовым узросце, зрабіў сапраўдны фурор як сярод творчай інтэлігенцыі, так і сярод звычайных чытачоў. І можна толькі сабе ўявіць, у якога б паэта Маракоў вырас, калі б так рана не абарвалася яго жыццё. Валеры Маракоў адзін з нямногіх, хто да самага расстрэлу не прызнаў сваёй віны, не паклёпнічаў на таварышаў па літаратуры.

З напісаных ім 7 кніжак свет пабачылі толькі чатыры. Дзе астатнія — невядома. А падчас арышту з ягонай хаты вывезлі цэлую гару рукапісаў. У 1989 годзе выйшла кніжка выбранага паэта «Вяршыні жаданняў», але гэта ўжо іншы Маракоў — парэзаны, пакалечаны. І толькі мінулым летам з публікацыі ў ЛіМе (14 жніўня 1998 г.) пляменніка Валеры Маракова, радыёінжынера па прафесіі Леаніда Уладзіміравіча Маракова, мы больш поўна даведаліся, якім жа быў малады паэт у сапраўднасці ў жыцці і творчасці без купюраў і домыслаў.

Яго любілі ўсе, акрамя зайздроснікаў. За статнасць, славянскае аблічча, за бесшабашнасць і працаздольнасць. Ён дзяліўся не толькі сваёй паэзіяй, але і ганарарамі з бяднейшымі сябрамі. Я размаўляў з людзьмі, якія яго памятаюць, і чуў толькі словы захаплення назаўсёды маладым Мараковым. А не пісаць ён не мог. Такім нарадзіўся, такім і загінуў. Перад расстрэлам паэту прыбілі на ноч руку да сцяны камеры-«амерыканкі», каб не пісаў вершы. Ці не страшны гэта сімвал нашай літаратуры 20—30-х гадоў?

*Жыццё, як мора-акіян*
*Жыццё, як мора-акіян...*
*А шчасце — бераг дальні...*
*Ідзе ў пустэльні караван*
*Пад гукі ветраў пахавальных...*

*Цвітуць ў Італіі сады...*
*І сонца там, і мора бліжай,*
*І ты глядзіш з журбой туды,*
*Над даллю рукі ўзняўшы крыжам.*

*Хмяльней там дзікае віно.*
*І там гучней гудуць факстроты,*
*А мне, мой дружа, ўжо даўно*
*Абрыдла ўсё... нат воблік цноты...*

*Шчаслівы я, што тут жыву.*
*Й за гэты край вясной вялікай,*
*Быць можа, знімуць галаву,*
*Праколюць цела вострай пікай.*

*І ты, быць можа, скажаш ты,*
*Што любіш ты, і не забудзеш,*
*І ўсіх зямных краін сады*
*Мне прынясуць вянкі на грудзі...*

*І зноўку пройдзе караван,*
*І бераг мора будзе біцца.*
*Жыццё, як мора-акіян...*
*А лёс мой — віхар-навальніца...*

*Што ж мне Італіі цяпло?*
*І той спакой, і сонца поўдню?..*
*Пад родны скрып тваіх калёс*
*Я песні родным сном напоўню!*

***1929.***

**Падрыхтаваў Анатоль СЫС.**

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб прававой ахове тапалогій інтэгральных мікрасхем

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 28 кастрычніка 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 19 лістапада 1998 года*

**Артыкул 1. Асноўныя тэрміны, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе**

Асноўныя тэрміны, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе:

тапалогія інтэгральнай мікрасхемы (далей — тапалогія) — зафіксаванае на матэрыяльным носьбіце прасторава-геаметрычнае размяшчэнне сукупнасці элементаў інтэгральнай мікрасхемы і сувязяў паміж імі;

інтэгральная мікрасхема — мікраэлектронны выраб канчатковай або прамежкавай формы, прызначаны для выканання функцый электроннай схемы, элементы і сувязі якога непадзельна сфарміраваны ў аб'ёме і (або) на паверхні матэрыялу, на аснове якога зроблены выраб;

праваўладальнік — аўтар тапалогіі, яго нашчаднік, а таксама любая фізічная або юрыдычная асоба, якая валодае выключным правам на выкарыстанне тапалогіі, атрыманым у выніку закона або дагавора.

**Артыкул 2. Аб'ект і ўмовы прававой аховы**

Прававая ахова, якая прадастаўляецца гэтым Законам, распаўсюджваецца толькі на арыгінальную тапалогію.

Арыгінальнай з'яўляецца тапалогія, створаная ў выніку творчай дзейнасці аўтара. Тапалогія прызнаецца арыгінальнай да таго часу, пакуль не даказана адваротнае.

Тапалогіі, сукупнасць элементаў якой агульнавядомая распрацоўшчыкам і вырабшчыкам інтэгральнай мікрасхемы на дату яе стварэння, прававая ахова не прадастаўляецца.

Тапалогіі, якая складаецца з элементаў, якія з'яўляюцца агульнавядомымі распрацоўшчыкам і вырабшчыкам інтэгральнай мікрасхемы на дату стварэння, прадастаўляецца прававая ахова толькі ў тым выпадку, калі сукупнасць такіх элементаў у цэлым адпавядае патрабаванням часткі другой гэтага артыкула.

Прававая ахова, якая прадастаўляецца гэтым Законам, не распаўсюджваецца на ідэі, спосабы, сістэмы, тэхналогію або любую закадзіраваную інфармацыю, якія могуць быць увасоблены ў тапалогіі.

**Артыкул 3. Аўтарства на тапалогію**

Аўтарам тапалогіі прызнаецца фізічная асоба, творчай працай якой яна створана.

Калі тапалогія створана ў выніку творчай дзейнасці некалькіх фізічных асоб, то ўсе яны лічацца яе сааўтарамі.

Не прызнаюцца сааўтарамі асобы, якія не ўнеслі асабістага творчага ўкладу ў стварэнне тапалогіі, а аказалі аўтару (сааўтарам) толькі тэхнічную, арганізацыйную або матэрыяльную дапамогу ці садзейнічалі афармленню правоў на выкарыстанне тапалогіі.

Права аўтарства на тапалогію з'яўляецца неадчужальным асабістым правам і ахоўваецца бестэрмінова.

**Артыкул 4. Прававая ахова тапалогіі**

Прававая ахова тапалогіі ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на падставе рэгістрацыі дадзенай тапалогіі ў рэспубліканскім органе дзяржаўнага кіравання ў галіне патэнтазнаўства (далей — патэнтны орган) у парадку, устаноўленым гэтым Законам.

Аўтар тапалогіі або іншы праваўладальнік можа па свайму жаданню непасрэдна або праз свайго прадстаўніка зарэгістраваць тапалогію ў патэнтным органе шляхам падачы заяўкі на афіцыйную рэгістрацыю тапалогіі.

Тапалогія можа быць зарэгістравана на імя юрыдычнай або фізічнай асобы.

Права на тапалогію ахоўваецца дзяржавай і засведчваецца пасведчаннем.

Пасведчанне на тапалогію засведчвае аўтарства, прыярытэт тапалогіі і выключнае права на яе выкарыстанне.

Аб'ём прававой аховы, якая прадастаўляецца тапалогіі, вызначаецца сукупнасцю яе элементаў і сувязяў, прадстаўленых на тапалагічных чарцяжах, фоташаблонах, фатаграфіях кожнага слоя тапалогіі, зафіксаванай у інтэгральнай мікрасхеме.

**Артыкул 5. Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі**

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі належыць аўтару гэтай тапалогіі або іншаму праваўладальніку.

Выключнае права прадастаўляе аўтару тапалогіі або іншаму праваўладальніку магчымасць выкарыстоўваць гэту тапалогію паводле свайго меркавання, у прыватнасці шляхам вырабу і распаўсюджвання інтэгральнай мікрасхемы з такой тапалогіяй.

Выкарыстанне іншымі асобамі тапалогій, у адносінах да якіх іх аўтару або іншаму праваўладальніку належыць выключнае права, дапускаецца толькі са згоды апошніх.

Парушэннем выключнага права на выкарыстанне тапалогій прызнаецца выкананне наступных дзеянняў без дазволу аўтара або іншага праваўладальніка:

капіраванне тапалогіі ў цэлым або яе часткі шляхам уключэння дадзенай тапалогіі ў інтэгральную мікрасхему або іншым чынам, за выключэннем капіравання толькі той часткі, якая не з'яўляецца арыгінальнай;

прымяненне, увоз, прапанова да продажу, продаж і іншае ўвядзенне ў грамадзянскі абарот тапалогіі або інтэгральнай мікрасхемы з гэтай тапалогіяй.

**Артыкул 6. Дзеянні, якія не прызнаюцца парушэннем выключнага права на выкарыстанне тапалогіі**

Не прызнаюцца парушэннем выключнага права на выкарыстанне тапалогіі:

дзеянні па выкарыстанню тапалогіі, якія ажыццяўляюцца трэцяй асобай у прыватных мэтах без атрымання прыбытку або толькі з мэтай адзнакі, аналізу, даследавання або навучання;

любыя дзеянні па выкарыстанню ідэнтычнай арыгінальнай тапалогіі, незалежна створанай трэцяй асобай;

прымяненне інтэгральнай мікрасхемы, у якой выкарыстана тапалогія, абароненая пасведчаннем, калі гэта інтэгральная мікрасхема ўведзена ў грамадзянскі абарот законным шляхам;

выкарыстанне законна набытых інтэгральных мікрасхем або вырабаў, што змяшчаюць такія інтэгральныя мікрасхемы, калі асоба, якая іх выкарыстоўвае, не ведала і не павінна была ведаць, што гэтыя інтэгральныя мікрасхемы або вырабы, якія змяшчаюць такія інтэгральныя мікрасхемы, выраблены і распаўсюджваюцца з парушэннем выключнага права на выкарыстанне тапалогіі. Калі пасля атрымання адпаведнага паведамлення ад праваўладальніка тапалогіі гэта асоба працягвае выкарыстанне інтэгральнай мікрасхемы або вырабу, яна абавязана выплаціць суразмерную кампенсацыю за кожную інтэгральную мікрасхему або кожны выраб, які змяшчае такую інтэгральную мікрасхему.

**Артыкул 7. Перадача выключнага права на выкарыстанне тапалогіі**

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі можа быць перададзена аўтарам або іншым праваўладальнікам поўнасцю або часткова іншым фізічным або юрыдычным асобам па дагавору. Дагавор перадачы выключнага права на выкарыстанне тапалогіі поўнасцю (дагавор уступкі права на тапалогію) і дагавор перадачы выключнага права на выкарыстанне тапалогіі часткова (ліцэнзійны дагавор) рэгіструюцца ў патэнтным органе і без рэгістрацыі лічацца несапраўднымі. Дагавор павінен быць прадстаўлены на рэгістрацыю на працягу трох месяцаў з даты яго падпісання.

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі пераходзіць у спадчыну ў парадку, устаноўленым законам, а таксама ў парадку правапераемнасці.

**Артыкул 8. Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі, якая створана ў парадку выканання службовых абавязкаў або па дагавору з заказчыкам**

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі, створанай аўтарам у парадку выканання ім сваіх службовых абавязкаў або па заданню наймальніка, належыць наймальніку, калі дагаворам паміж ім і аўтарам не прадугледжана іншае.

Парадак выплаты і памер узнагароджання аўтару за стварэнне і выкарыстанне тапалогіі ўстанаўліваюцца дагаворам паміж аўтарам і наймальнікам.

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі, створанай аўтарам па дагавору з заказчыкам, які не з'яўляецца яго наймальнікам, належыць заказчыку, калі дагаворам не прадугледжана іншае.

**Артыкул 9. Тэрмін дзеяння выключнага права на выкарыстанне тапалогіі**

Выключнае права на выкарыстанне тапалогіі дзейнічае на працягу дзесяці гадоў.

Пачатак тэрміну дзеяння выключнага права на выкарыстанне тапалогіі вызначаецца па больш ранейшай з наступных дат:

па даце першага выкарыстання тапалогіі, пад якой падразумяваецца найбольш ранняя дакументальна зафіксаваная дата ўвядзення ў грамадзянскі абарот дзе-небудзь у свеце гэтай тапалогіі або інтэгральнай мікрасхемы з такой тапалогіяй;

па даце рэгістрацыі тапалогіі ў патэнтным органе.

У выпадку з'яўлення ідэнтычнай арыгінальнай тапалогіі, незалежна створанай іншым аўтарам, агульны тэрмін дзеяння выключнага права на выкарыстанне тапалогіі не можа перавышаць дзесяці гадоў.

**Артыкул 10. Заяўка на рэгістрацыю тапалогіі**

Заяўка на рэгістрацыю тапалогіі (далей — заяўка) падаецца ў патэнтны орган:

аўтарам;

наймальнікам пры наяўнасці ўмоў, прадугледжаных часткай першай артыкула 8 гэтага Закона;

юрыдычнай або фізічнай асобай, якой аўтар або наймальнік перадалі на дагаворнай аснове сваё права на падачу заяўкі або да якой яно перайшло ў спадчыну.

Заяўка можа быць пададзена праз патэнтнага паверанага, зарэгістраванага ў патэнтным органе.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне, замежныя юрыдычныя асобы, якія маюць пастаяннае месцазнаходжанне ў замежных краінах, ці іх патэнтныя паверaныя вядуць у Рэспубліцы Беларусь справы па атрыманню пасведчанняў на тапалогію праз беларускіх патэнтных паверaных, зарэгістраваных у патэнтным органе.

Падача заяўкі можа быць ажыццёўлена ў тэрмін, які не перавышае двух гадоў з даты першага выкарыстання тапалогіі, калі яно мела месца.

Заяўка павінна адносіцца да адной тапалогіі і можа ўключаць яе варыянты.

Заяўка павінна ўключаць:

заяву аб выдачы пасведчання з указаннем аўтара (сааўтараў) тапалогіі і асобы (асоб), на імя якога (якіх) запатрабуецца пасведчанне;

назва інтэгральнай мікрасхемы з тапалогіяй, на якую запатрабуецца прававая ахова;

адрас і назва заяўніка;

указанне даты і месца першага выкарыстання тапалогіі ў камерцыйных мэтах (калі яно мела месца);

дэпаніруемыя матэрыялы:

зборны тапалагічны чарцёж;

камплект фоташаблонаў або фатаграфій кожнага слоя інтэгральнай мікрасхемы;

узоры інтэгральных мікрасхем з дадзенай тапалогіяй у выпадку выкарыстання яе ў камерцыйных мэтах;

рэферат, які змяшчае звесткі аб галіне прымянення, прызначэнні або функцыі інтэгральнай мікрасхемы і яе асноўных параметрах;

даверанасць (у выпадку падачы заяўкі прадстаўніком).

Да заяўкі павінен быць прыкладзены дакумент, які пацвярджае выплату пошліны ва ўстаноўленым памеры або вызваленне ад выплаты пошліны ці наяўнасць падстаў для змяншэння яе памеру.

Патрабаванні да дакументаў заяўкі ўстанаўліваюцца патэнтным органам.

**Артыкул 11. Прыярытэт тапалогіі**

Прыярытэт тапалогіі ўстанаўліваецца па даце паступлення ў патэнтны орган правільна аформленай заяўкі.

Прыярытэт тапалогіі можа ўстанаўлівацца па даце першага выкарыстання тапалогіі ў камерцыйных мэтах дзе-небудзь ў свеце, а таксама па даце яе першага фіксавання або кадзіравання.

**Артыкул 12. Экспертыза заяўкі на тапалогію**

У ходзе правядзення экспертызы заяўкі правяраюцца наяўнасць неабходных дакументаў, захаванне асноўных патрабаванняў да іх і разглядаецца пытанне аб тым, ці адносіцца заяўленая прапанова да тапалогій, якім можа быць прадастаўлена прававая ахова.

Экспертыза праводзіцца патэнтным органам на працягу двух месяцаў з даты паступлення заяўкі.

Экспертыза заяўкі на тапалогію на адпаведнасць умовам, прадугледжаным часткай другой артыкула 2 гэтага Закона, не праводзіцца.

Калі ў ходзе экспертызы ўстаноўлена, што заяўленая тапалогія не адносіцца да аб'ектаў, якія ахоўваюцца гэтым Законам, прымаецца рашэнне аб адмове ў выдачы пасведчання, аб чым заяўніку паведамляецца.

Калі дакументы, якія ўваходзяць у заяўку, афармлены з парушэннем патрабаванняў, што да іх прад'яўляюцца, заяўніку накіроўваецца запыт з прапановай у двухмесячны тэрмін з даты атрымання запыту прадставіць выпраўленыя або адсутныя дакументы. У выпадку, калі заяўнік ва ўказаны тэрмін не прадставіць запытваемыя матэрыялы або хадайніцтва аб прадаўжэнні ўстаноўленага тэрміну, заяўка прызнаецца адклікaнай, аб чым заяўніку паведамляецца.

Пры нязгодзе з рашэннем экспертызы заяўнік на працягу двух месяцаў з даты атрымання такога рашэння мае права падаць пярэчанне ў патэнтны орган. Рашэнне па пярэчанню прымаецца на працягу месяца з дня яго паступлення.

Калі ў выніку экспертызы будзе ўстаноўлена, што заяўка пададзена на прапанову, якая адносіцца да тапалогій, якім можа быць прадастаўлена прававая ахова, і дакументы, што ўваходзяць у яе, афармлены правільна, прымаецца рашэнне аб выдачы пасведчання на тапалогію.

Аб станоўчым выніку экспертызы заяўкі і аб устанаўленні ў адпаведнасці з артыкулам 11 гэтага Закона прыярытэту тапалогіі заяўніку паведамляецца.

**Артыкул 13. Выдача пасведчання на тапалогію**

Выдача пасведчання на тапалогію праводзіцца патэнтным органам пасля ўнясення звестак аб тапалогіі ў Дзяржаўны рэестр тапалогій інтэгральных мікрасхем (далей — Рэестр тапалогій) у месячны тэрмін пасля атрымання дакумента аб выплаце ўстаноўленай пошліны.

Пры наяўнасці некалькіх асоб, на імя якіх было запатрабавана пасведчанне, ім выдаецца адно пасведчанне.

**Артыкул 14. Публікацыя звестак аб рэгістрацыі**

Звесткі, якія адносяцца да рэгістрацыі тапалогіі і ўнесены ў Рэестр тапалогій у адпаведнасці з артыкулам 13 гэтага Закона, публікуюцца патэнтным органам у афіцыйным бюлетэні на працягу шасці месяцаў з даты рэгістрацыі тапалогіі ў Рэестры тапалогій. Праводзіцца таксама публікацыя ўсіх наступных змяненняў у звестках, якія адносяцца да рэгістрацыі тапалогіі. Аб'ём звестак, што публікуюцца ў афіцыйным бюлетэні, вызначаецца патэнтным органам.

**Артыкул 15. Пошліны**

За падачу заяўкі, правядзенне экспертызы, рэгістрацыю і выдачу пасведчання на тапалогію, а таксама за ўчыненне іншых юрыдычных значных дзеянняў бяруцца пошліны. Пералік дзеянняў, за ўчыненне якіх бяруцца пошліны, парадак, памеры і тэрміны выплаты пошлін, а таксама падставы для вызвалення іх ад выплаты, памяншэння памераў або вяртання пошлін устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 16. Выкарыстанне тапалогіі**

Выкарыстаннем тапалогіі прызнаецца ўзнаўленне, прымяненне, увоз, прапанова да продажу, продаж і іншае ўвядзенне ў грамадзянскі абарот гэтай тапалогіі або інтэгральнай мікрасхемы з такой тапалогіяй.

Умовы выкарыстання тапалогіі, правы на якую належаць некалькім асобам, вызначаюцца дагаворам паміж імі.

Для апавяшчэння аб сваіх правах аўтар тапалогіі або яго правапераемнік мае права ўказваць на тапалогіі, якая ахоўваецца, а таксама на вырабах, што ўключаюць такую тапалогію, вялікую літару «Т», дату пачатку тэрміну дзеяння выключнага права на выкарыстанне тапалогіі і інфармацыю, якая дазваляе індэнтыфікаваць праваўладальніка.

**Артыкул 17. Прымусовая ліцэнзія**

Пры невыкарыстанні або недастатковым выкарыстанні тапалогіі праваўладальнікам на працягу трох гадоў з даты рэгістрацыі яе ў патэнтным органе любая фізічная або юрыдычная асоба, якая жадае і гатова выкарыстаць тапалогію, што ахоўваецца, у выпадку адмовы праваўладальніка ад заключэння ліцэнзійнага дагавора можа звярнуцца ў суд з іскам аб прадастаўленні яму прымусовай невыключнай ліцэнзіі.

У выпадку прыняцця судом рашэння аб задавальненні іску аб прадастаўленні прымусовай невыключнай ліцэнзіі праваўладальнік абавязаны заключыць ліцэнзійны дагавор з асобай, якая жадае і гатова выкарыстаць тапалогію, што ахоўваецца, з вызначэннем меж выкарыстання тапалогіі, памеру, тэрмінаў і парадку плацяжоў.

**Артыкул 18. Паўнамоцтвы патэнтнага органа**

Патэнты орган у адпаведнасці з гэтым Законам прымае да разгляду заяўкі, праводзіць па іх экспертызу, выдае пасведчанні на тапалогіі, якія дзейнічаюць на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у межах сваёй кампетэнцыі ажыццяўляе кантроль за выкананнем заканадаўства па прававой ахове тапалогій, абагульняе практыку яго прымянення.

**Артыкул 19. Абарона правоў на тапалогію**

Аўтар (праваўладальнік) тапалогіі мае права патрабаваць:

прызнання сваіх правоў;

аднаўлення становішча, якое існавала да парушэння права, і спынення дзеянняў, што парушаюць права або ствараюць пагрозу яго парушэння;

пакрыцця прычыненага ўрону з улікам сумы даходаў, неправамерна атрыманых парушальнікам;

прыняцця іншых прадугледжаных актамі заканадаўства мераў, звязаных з абаронай яго правоў.

**Артыкул 20. Адказнасць за парушэнне правоў на тапалогію**

Выкарыстанне тапалогіі з парушэннем палажэнняў гэтага Закона, а таксама іншыя дзеянні ў адносінах да тапалогіі, якія наносяць урон яе ўладальнікам або спажыўцам, цягнуць за сабой адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Асоба, якая незаконна выкарыстоўвае чужую тапалогію, па патрабаванню ўладальнікаў абавязана спыніць яе выкарыстанне і пакрыць прычынены ўрон.

Прысваенне аўтарства, прымус да сааўтарства, выдаванне сутнасці тапалогіі да падачы заяўкі на яе без згоды аўтара цягнуць за сабой адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21. Ахова правоў на тапалогію ў замежных краінах**

Аўтар тапалогіі або іншы праваўладальнік можа запатрабоўваць прававую ахову тапалогіі ў замежных краінах.

Расходы, звязаныя з атрыманнем прававой аховы тапалогіі ў замежных краінах, нясе асоба, якая запатрабоўвае такую ахову, або па пагадненню з ім іншая фізічная або юрыдычная асоба.

**Артыкул 22. Правы замежных грамадзян, асоб без грамадзянства і замежных юрыдычных асоб**

Замежныя грамадзяне, асобы без грамадзянства і замежныя юрыдычныя асобы карыстаюцца правамі, якія прадугледжаны гэтым Законам, і нясуць адказнасць нараўне з грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі і міжнароднымі дагаворамі.

**Артыкул 23. Міжнародныя дагаворы**

Калі ў міжнародным дагаворы, заключаным Рэспублікай Беларусь, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Артыкул 24. Заключныя палажэнні**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам яно прымяняецца ў той частцы, у якой не супярэчыць гэтаму Закону, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прававой ахове тапалогій інтэгральных мікрасхем» прымяняецца да праваадносінаў, якія ўзніклі пасля ўступлення ў сілу гэтага Закона.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу шасці месяцаў з дня ўступлення гэтага Закона ў сілу:

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*7 снежня 1998 г., г. Мінск.*
*№ 214-З.*

## Факультатыў — справа добраахвотная?

*Паважаны «Пытальнік», вось ужо некалькі гадоў запар я спрабую даведацца, як размяркоўваюцца гадзіны факультатыўных заняткаў у ПТВ. Хачу даведацца, ці ёсць абавязковыя факультатывы і ці ўваходзяць гадзіны факультатыўных заняткаў у тарыфную стаўку выкладчыка?*

**Р. Е. Лакошка,**
г. п. Хоцімск

З Міністэрства адукацыі РБ, куды мы даслалі ліст чытача, быў атрыманы наступны адказ: «У мэтах стварэння ўмоў для найбольш поўнага задавальнення індывідуальных запатрабаванняў навучэнцаў, развіцця іх схільнасцяў і здольнасцяў, паглыблення прафесійных ведаў ў прафесійна-тэхнічных навучальных установах арганізуюцца факультатыўныя заняткі.

Факультатыўныя заняткі не з'яўляюцца абавязковымі і арганізуюцца па тых прадметах, якія выбралі навучэнцы з прапанаванага ім пераліку. Гадзіны, прадугледжаныя вучэбным планам на правядзенне факультатыўных заняткаў, не ўваходзяць у гадавую вучэбную нагрузку. Аплата выкладчыкам за правядзенне факультатыўных заняткаў ажыццяўляецца пагадзінна за фактычна выкананы аб'ём гадзін у межах выдзеленага фонду заработнай платы.

Права размеркавання гадзін вучэбнай нагрузкі ў адпаведнасці з інструктыўным пісьмом Міністэрства адукацыі «Аб парадку правядзення тарыфікацыі педагагічных работнікаў» (ад 13.07.1995 г. № 16-11/225 прадастаўляецца кіраўніцтву навучальнай установы».

## Добраахвотная страхоўка не пазбаўляе ад абавязковай

*Мая маці больш як дваццаць гадоў добраахвотна страхуе жыллёвыя пабудовы. Вось і сёлета яна заплаціла страхоўку. Адкажыце, калі ласка, ці павінна яна плаціць яшчэ і абавязковую страхоўку, згодна з указам прэзідэнта? Ці не з'яўляецца гэта двайным падаткаабкладаннем?*

**Ганна Панова,**
в. Новы Двор, Шчучынскі раён.

Як патлумачылі ў Беларускай дзяржаўнай страхавой арганізацыі «Белдзяржстрах», страхавая сума па абавязковаму страхаванню пабудоў складае толькі 50 працэнтаў іх кошту, і для больш поўнай абароны маёмасных інтарэсаў страхавальніка можа быць заключаны яшчэ і добраахвотны дагавор, страхавая сума якога не павінна перавышаць астатнія 50 працэнтаў кошту пабудоў.

Страхавыя ўзносы, уплачаныя страхавальнікамі як па абавязковаму, так і па добраахвотнаму страхаванню пабудоў, не з'яўляюцца падаткам і прызначаны для выплаты кампенсацыі страхавальнікам пры наступленні страхавых выпадкаў.

## Па пошце тавары больш не дасылаюць

*Паважаны «Пытальнік»! Ці можна набыць запчасткі да матацыкла па пошце? Раней набываў, а цяпер колькі ні пішу, а адказу няма.*

**С. Гарбачоў,**
в. Аношкі Лепельскага раёна.

Як патлумачылі нам у Міністэрстве гандлю, ніякіх, скажам так, цэнтралізаваных паставак тавараў па пошце ў краіне не вядзецца. Кожнае асобнае прадпрыемства самастойна вырашае гэтую праблему для сябе: прадастаўляць такую форму паслугі, як продаж пэўных тавараў па каталогу, ці не. Відавочна, тая база, на якую вы пісалі раней, з той ці іншай нагоды адмовілася ад прадастаўлення такога роду паслуг. Таму вашы лісты і застаюцца без адказу. Напэўна, у пошуках неабходнага давядзецца звяртацца непасрэдна ў спецыялізаваныя магазіны.

## У ПАЛАЦЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ З'ЯВЯЦЦА ДВА НОВЫЯ ДЭПУТАТЫ

**На пятай сесіі беларускага парламента быў прыняты закон, згодна з якім прадугледжана магчымасць запаўнення вакантных месцаў у Палаце прадстаўнікоў з саставу дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, якія напісалі заявы аб жаданні працаваць у Палаце, але не ўвайшлі ў яе састаў.**

Як вядома, на сённяшні дзень ёсць дзве вакансіі. З моманту фарміравання новага парламента памёр дэпутат Мікалай Шыманскі, а ў выніку тэрарыстычнага акта загінуў Яўген Мікалуцкі. Але ўжо гэтую сесію Палата прадстаўнікоў збіраецца закончыць у поўным саставе, даабраўшы двух дэпутатаў.

Іх кандыдатуры былі разгледжаны пастаяннымі камісіямі парламента і 16 снежня адобраны на пленарным пасяджэнні. Але для канчатковага зацвярджэння дэпутатаў рашэнне Палаты прадстаўнікоў павінна быць прадстаўлена на адабрэнне Савету Рэспублікі і прэзідэнту. Такім чынам, неўзабаве дэпутацкі мандат зноў могуць атрымаць Уладзімір Волкаў, які абіраўся ў Вярхоўны Савет па Аўтазаводскай выбарчай акрузе № 220 і які працуе дырэктарам Мінскага завода колавых цягачоў, а таксама Мікалай Якоўчык, дырэктар саўгаса «Заказельскі» Драгічынскага раёна, дэпутат Вярхоўнага Савета ад Антопальскай выбарчай акругі № 17. Як сцвярджае старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму кіраванню і рэгламенту Анатоль Красуцкі, пры адборы кандыдатур кіраўніцтва парламента кіравалася прафесійнымі і палітычнымі якасцямі прэтэндэнтаў. Да таго ж такім чынам мяркуецца ўзмацніць прадстаўніцтва ў парламенце дэпутатаў ад Брэсцкай вобласці і Мінска.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## БЮДЖЭТ КРАІНЫ Ў СТАДЫІ ЗАВЯРШЭННЯ

**Менавіта такую выснову, згодна з паведамленнем прэс-службы Міністэрства фінансаў, можна зрабіць пасля таго, як у міністэрстве прайшла рабочая сустрэча з прадстаўнікамі аблвыканкамаў, на якой былі разгледжаны некаторыя параметры праекта кансалідаванага бюджэту краіны на наступны год, абмеркаваны аспекты ўзаемадзеяння бюджэтаў розных узроўняў.**

Гэтая сустрэча — адна з завяршальных у напружанай рабоце Мінфіна над праектам бюджэту-99. Пераразлік яго выкліканы тым, што спачатку праект бюджэту быў складзены і ўнесены ва ўрад да расійскага крызісу. Удакладненні пацягнула таксама тая абставіна, што Прэзідыум Савета Міністраў у пачатку снежня прыняў асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі і прагнозныя паказчыкі на наступны год, якія ўлічваюць наступствы расійскага фінансавага крызісу для Беларусі.

Як адзначыў міністр фінансаў Мікалай Корбут, у бюджэце на 1999 год, разам з бюджэтнымі фондамі, падатковая нагрузка зніжана да 35 працэнтаў. Міністэрства фінансаў прапанавала ў наступным годзе рэзка, да 2 працэнтаў ад ВУП, скараціць велічыню дэфіцыту бюджэту супраць 3,5 працэнта ВУП у сёлетнім годзе.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ
## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА ЛІСТАПАД 1998 ГОДА

**Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што за лістапад 1998 года індэкс спажывецкіх цэн у параўнанні з кастрычнікам 1998 года склаў 125 працэнтаў, са снежнем 1997 года — 231,4 працэнта.**

## ЧЫТАННЕ АБВІНАВАЎЧАГА ЗАКЛЮЧЭННЯ НА ПРАЦЭСЕ СТАРАВОЙТАВА ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА ЗАВЯРШЭННЯ

**Пра гэта паведаміла карэспандэнту «Звязды» старшыня Кіраўскага раённага суда Надзея Чмара.**

На ўчарашнім судовым пасяджэнні чытанне абвінаваўчага заключэння ўшчыльную падышло да завяршэння, і гэтую даволі стамляльную частку працэсу хутка зменіць іншая — даследаванне доказаў па справе. Суд самастойна вырашыць, як і ў якім парадку будуць слухацца сведкі і дапытвацца падсудныя.

На судовым пасяджэнні ў аўторак грамадскі абаронца Васіля Старавойтава Гары Паганяйла выступіў з хадайніцтвам аб далучэнні да матэрыялаў справы заявы Беларускага Хельсінкскага камітэта. У гэтай заяве суд папярэджваўся аб адказнасці за здароўе і жыццё галоўнага падсуднага Васіля Старавойтава ў сувязі з тым, што ўжо двойчы былі адхілены хадайніцтвы адваката і грамадскага абаронцы аб змяненні меры стрымання для іх падабароннага на больш літасцівую для 74-гадовага чалавека падпіску аб нявыездзе.

Па меркаванню старшыні суда Надзеі Чмара, заява, якую прадставіў Гары Паганяйла, з'яўляецца ксеракопіяй нейкага іншага дакумента і, акрамя гэтага, не мае выходнага нумара і подпісу. Надзея Чмара лічыць, што няма гарантыі сапраўднасці дакумента. Суд адхіліў хадайніцтва Гары Паганяйлы ў сувязі з неналежным афармленнем афіцыйнай паперы.

Як паведаміла Надзея Чмара, умовы ўтрымання Васіля Старавойтава ў следчым ізалятары горада Бабруйска палепшаны, наколькі гэта магчыма, у сувязі з абвастрэннем хранічнага бранхіту. З камеры «выселілі» ўсіх, хто курыць, бо ў Старавойтава быў моцны кашаль. Сам галоўны падсудны на ўмовы не вельмі скардзіцца: як сказала суддзя, «наколькі ўвогуле магчыма не скардзіцца на несвабоду».

**Ілона ІВАНОВА.**

## БАЛКАНЫ СТАНУЦЬ БЛІЖЭЙ

**Адным з заключных мерапрыемстваў Дзён культуры Югаславіі ў Рэспубліцы Беларусь стала прэзентацыя турыстычнага бізнесу гэтай краіны. Яна адбылася ў Нацыянальным турысцкім канцэрне «Белінтурыст».**

Вяла прэзентацыю Любіца Мілошавіч — намеснік дырэктара нацыянальнай турыстычнай арганізацыі «Сербія». Шмат цікавых лічбаў і фактаў прывяла яна. Аматараў падарожжаў і экскурсій з усяго свету ў Сербіі чакаюць сёння дзесяткі самых розных аб'ектаў і цэнтраў. Гэта — нацыянальныя паркі Фрушка гара, Джэрдап, Капаонік, Шар гара і Тара; звыш ста манастыроў, у тым ліку Студзеніца, комплексы Стары Рас і Сапачаны і манастыр Мілешава са славутай фрэскай «Белы Анёл», занесеныя ў спісы ЮНЕСКО як найкаштоўнейшыя скарбы сусветнай культуры; звыш 50 музеяў і галерэй, дзесяткі тэатраў і дыска-клубаў... Да паслуг турыстаў — 40 сучасных камфартабельных гасцініц на 17 з паловай тысяч нумароў.

У 80-я гады Югаславія сярод турыстычна развітых дзяржаў нашага кантынента займала ганаровае восьмае месца. «Цяпер, — прызналася ў гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» Любіца Мілошавіч, — шмат што страчана: драбленне некалі адзінай дзяржавы на суверэнныя краіны-малюскі, палітычная сітуацыя на Балканах у цэлым, канешне ж, даюць аб сабе знаць... Тым не менш, мы не сумняваемся: наша прырода і наша экалогія — самыя лепшыя і чыстыя ў свеце — паспрыяюць аднаўленню нашага прэстыжу...»

Намеснік міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Міхаіл Шаршавіцкі, які прысутнічаў пры нашай размове, пагадзіўся, што ў турыстычным бізнесе дзвюх дзяржаў сёння шмат агульных пытанняў і нявырашаных праблем. У ходзе Дзён культуры Югаславіі ў Беларусі з калегамі з Балканскага паўвострава ўстаноўлены вельмі трывалыя і надзейныя кантакты. І літаральна з вясны-99 гэтыя сувязі пачнуць даваць канкрэтную, узаемавыгадную аддачу, запэўніў намеснік міністра.

Дарэчы, учора па выніках рабочай сустрэчы адбылося падпісанне пратакола паміж Міністэрствам спорту і турызму Беларусі і турысцкай арганізацыяй «Сербія» ў рамках міжурадавага пагаднення паміж Беларуссю і Югаславіяй.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## ВЕРШЫ БЕЛАРУСКІХ ПАЭТАЎ ЗАГУЧАЦЬ ПА-СЕРБСКУ

**16 снежня адбылася сустрэча пісьменнікаў Беларусі і прадстаўнікоў творчай эліты Югаславіі.**

Гаварыць было пра што — за апошнія дзесяць гадоў гэтая краіна не толькі ваявала. Тут ствараліся вершы, драматычныя творы, югаслаўскае кіно апошніх гадоў адзначалася на многіх міжнародных фестывалях.

«У нас незалежна ад вайны кіно і тэатр дасягнулі зайздроснай вышыні, — казала драматург Міліца Ноўкавіч. — Але я ехала ў Беларусь не столькі дзеля нейкага ўмоўнага супрацоўніцтва, а каб пабачыць, як тут людзі жывуць і чым».

А вось паэт Драгамір Брайкавіч быў знаёмы з некаторымі беларускімі калегамі. І, магчыма, не шкадаваў, што адзначаць свой дзень нараджэння давялося ў Мінску. Ён тут адчуваў сябе сваім сярод братоў, бо, у рэшце рэшт, мы жывём на адной зямлі, па якой сябе пазнаём і ідэнтыфікуем. «Шукайце апору нават у пустыні» — вось радок з яго верша, які прагучаў на сустрэчы. Дарэчы, узяты ён быў з кнігі, прысвечанай Косаву. Тэма будучыні гэтага краю стала раптам актуальнай для ўсяго свету. «...Сляды крыві пакінулі нібыта ў імя любові і мы і яны...» — піша Драгамір Брайкавіч у наступным вершы.

А між іншым, культурнае жыццё Югаславіі за гэты год было пазначана і раднаснымі падзеямі. У краіне адзначалася 800-годдзе вядомага манастыра Хілангары, што знаходзіцца на святой гары Афон. І ў адзін год святкавалася 100-годдзе адразу трох класікаў югаслаўскай паэзіі.

А вось для таго, каб мы болей ведалі пра творчасць адзін аднаго, на сустрэчы прагучала прапанова падрыхтаваць анталогію беларускай паэзіі за апошнія 50 гадоў з перакладам на сербскую мову, у сваю чаргу пісьменнікі Югаславіі зробяць анталогію сваёй паэзіі. Застаецца паклапаціцца, каб гэтыя зборнікі ўбачылі свет.

Але пачуцці, якія перадае паэзія кахання, можна адчуць і без перакладу. У якім бы стане ні знаходзілася краіна, яе жыхары ўсё роўна шукаюць блізкую душу. Вось і паэт Слабадан Станіч прыехаў у Беларусь менавіта са сваёй апошняй кнігай, якая ўключае 100 вершаў пра каханне. І, каб застацца ў межах сваёй творчасці і тэмы сустрэчы, ён сказаў коратка: «Я вас люблю!»

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Нацбанк узнавіў правядзенне дадатковай гандлёвай сесіі на МВБ

**Нацыянальны банк рэспублікі ў мэтах стабілізацыі валютнага рынку ўзнавіў з 16 снежня правядзенне дадатковай гандлёвай сесіі Міжбанкаўскай валютнай біржы.**

Як паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі галоўнага банка краіны, з пачаткам работы дадатковай сесіі на асноўнай будуць ажыццяўляцца здзелкі па набыццю замежнай валюты толькі для аплаты энерганосьбітаў і выконвацца заяўкі на задавальненне патрэб рэспублікі па некаторых іншых пазіцыях крытычнага імпарту.

Рашэнне аб узнаўленні правядзення дадатковай гандлёвай сесіі, як лічаць у Нацбанку, паспрыяе больш поўнаму задавальненню попыту суб'ектаў гаспадарання на замежную валюту, павелічэнню рэнтабельнасці экспартных аперацый, а таксама стымуляванню прадпрыемстваў-экспарцёраў.

На дадатковай сесіі будуць праводзіцца аперацыі з усімі відамі замежных валют, якія каціруе Нацбанк. З ранейшых сарака працэнтаў сродкаў у СКВ і расійскіх рублях, якія абавязкова прадаваліся на МВБ, на асноўнай сесіі будзе прадавацца 30 працэнтаў, на дадатковай — 10 працэнтаў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

- Суадносіны даходаў 20 працэнтаў **найбольш багатай часткі насельніцтва** свету з доляй даходаў 20 працэнтаў бяднейшай часткі насельніцтва павялічылася з 30:1 у 1960 годзе да 61:1 у 1991 годзе, дасягнуўшы ў 1994 годзе рэкорднага ўзроўню — 78:1.
- Сёння ў рэспубліцы два мільёны людзей жывуць на тэрыторыях з павышаным узроўнем **радыяцыйнага забруджвання.** У Беларусі каля тысячы дзяцей прааперыраваны з прычыны хваробы шчытападобнай залозы.
- З пачатку гэтага года правааховныя органы краіны прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за **незаконныя валютныя аперацыі** больш як 2,5 тысячы грамадзян.

## ПАВОДКА ПАД НОВЫ ГОД?

**Апошнім часам у краіне істотна пацяплела, да таго ж не перапыняліся ападкі. У выніку на асобных участках Нёмана, Прыпяці і яе прытоках (уключаючы рэкі Гарынь, Случ, Убарць), а таксама на рэках басейна Заходняга Буга пачалося павышэнне ўзроўняў вады. Пакуль, на шчасце, яно невялікае і складае ад 1 да 7 сантыметраў за суткі.**

На астатніх рэках, як паведаміў рэдакцыі начальнік аддзела гідралогіі і гідрапрагнозу Белгідрамета Рыгор Чэкан, працягваецца спад узроўняў вады. Паўсюдна захоўваецца ледастаў, месцамі на лёдзе з'явілася вада. Як мяркуюць спецыялісты, цёплае надвор'е ў бліжэйшыя 2-3 дні абумовіць далейшае таянне снегавога покрыва, і павышэнне ўзроўняў вады ў рэках адновіцца. Найперш гэта датычыць паўднёвай і заходняй часткі краіны. Дадасць вады і суседняя Украіна, дзе таксама ў выніку таяння снегу і ападкаў назіраецца павышэнне ўзроўняў рэк і правабярэжных прытокаў. У выніку такіх сумесных «намаганняў» водных артэрый дзвюх суседніх краін у Беларусі ў бліжэйшыя дні рост узроўняў вады ў рэках можа скласці 5—10 сантыметраў за суткі — пакуль пераважна ў заходняй і паўднёвай частцы краіны. Калі надвор'е зноў не зменіцца на зімовае, пад Новы год можа нагадаць аб сабе і паводка...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

***Погляд***

## БЕЗ ПРАВА БЫЦЬ ВЫБРАНЫМ?

**Калі закон аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, які ў мінулы аўторак быў прыняты Палатай прадстаўнікоў, канчаткова зацвердзяць члены Савета Рэспублікі, большасць лідэраў беларускай апазіцыі будуць пазбаўлены права вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты.**

Норма, паводле якой забаронена балатавацца тым, хто прыцягваўся па суду да адміністрацыйнай адказнасці, аўтаматычна адсякае шлях у прадстаўнічыя органы ўлады тысячам удзельнікаў і арганізатараў несанкцыянаваных акцый пратэсту, што пракаціліся па краіне ў 1996-97 гадах. Як вядома, адміністратыўныя спагнанні тады былі накладзены фактычна на ўсіх лідэраў дэмакратычнай апазіцыі, імёны якіх вядомы беларускім выбаршчыкам.

Як паведаміла старшыня Цэнтральнай выбарачнай камісіі Лідзія Ярмошына, усе прынцыповыя нормы, закладзеныя ў законе аб мясцовых выбарах, у далейшым плануецца прадубліраваць і ў Выбарчым кодэксе, на падставе якога будуць праходзіць і парламенцкія, і прэзідэнцкія выбары. Калі гэта сапраўды будзе зроблена, то ў выбрачых бюлетэнях больш увогуле не з'явяцца імёны Сямёна Шарэцкага, Станіслава Багданкевіча, Генадзя Карпенкі, Юрыя Хадыкі, Зянона Пазняка, Мікалая Статкевіча і многіх іншых. Для апазіцыі гэта цяжкі накаўт, для сённяшняй улады — чарговы пераможны ўдар па апазіцыйных лідэрах.

Аднак, на мой погляд норма, якая абмяжоўвае палітычныя правы дзесяткаў (а, магчыма, і соцень) тысяч беларускіх грамадзян, выклікае шмат пытанняў. Перагорнем дзеючую ў краіне Канстытуцыю 1996 года. Артыкул 64 прадугледжвае: «У выбарах не ўдзельнічаюць грамадзяне, прызнаныя судом недзеяздольнымі, асобы, якія, ўтрымліваюцца па прыгавору суда ў месцах пазбаўлення волі. У галасаванні не прымаюць удзел асобы, у адносінах да якіх у парадку, устаноўленым крымінальна-працэсуальным заканадаўствам, выбрана мера стрымання — утрыманне пад вартай. Любое прамое ці ўскоснае абмежаванне выбарчых правоў грамадзян у іншых выпадках з'яўляецца недапушчальным і караецца згодна з законам».

Лёгка пераканацца, што ў гэтым артыкуле прыводзіцца поўны пералік выпадкаў, пры якіх выбарчыя правы могуць быць абмежаваны. Ніякай згадкі пра адміністратыўна пакараных тут няма.

У сённяшніх умовах складана разлічваць на тое, што гэта прынцыповая справа можа стаць прадметам разгляду ў Канстытуцыйным судзе. Аднак тое, што яна выкліча зусім пэўную рэакцыю за межамі Беларусі — напэўна. З такім законам, напрыклад, немагчыма разлічваць на ўступленне ў Савет Еўропы ці ў іншыя еўрапейскія структуры. Зноў могуць ускладняцца перамовы з АБСЕ, з вядучымі заходнімі краінамі, пад пытаннем апынуцца нават тыя сціплыя крэдыты, якія абяцаў нам Міжнародны валютны фонд.

Справа ў дадзеным выпадку не толькі ў апазіцыянерах. Штогод да розных відаў адміністрацыйнай адказнасці (у тым ліку з удзелам судоў) прыцягваюцца дзесяткі тысяч беларускіх грамадзян. Адміністрацыйнае пакаранне можна панесці не толькі за ўдзел у антыўрадавым мітынгу, але і за сямейны скандал, за аўтадарожнае здарэнне, за непаразуменні з суседам або з калгасным начальствам... Ці мала іншых жыццёвых канфліктных сітуацый, якія канчаюцца судом і штрафам, а то і 15 суткамі арышту. Няўжо гэтыя дзесяткі (ці сотні) тысяч людзей павінны пазбавіцца аднаго з асноўных канстытуцыйных правоў?

**Валянцін ЖДАНКО.**

## ДВА ЧАЛАВЕКІ ЗАГІНУЛІ, ТРОЕ АТРЫМАЛІ РАНЕННІ Ў ВЫНІКУ ДАРОЖНА-ТРАНСПАРТНАГА ЗДАРЭННЯ НА ЎЧАСТКУ ТРАСЫ МІНСК— ГОМЕЛЬ

**Здарэнне адбылося ўчора на ўчастку трасы Мінск—Гомель у Жлобінскім раёне.**

«Мерседэс-Бэнц-260», у якім знаходзіліся двое, выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з «Фольксвагенам-Гольфам».

За рулём «Фольксвагена» быў прыватны прадпрымальнік са Жлобіна, які вёз у Гомель двух супрацоўнікаў жлобінскага міжраённага аддзялення Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў. У выніку сутыкнення вадзіцель і адзін з пасажыраў «Фольксвагена» загінулі. У гэты час вядзецца расследаванне прычын трагедыі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

## ДА КАНЦА ГОДА Ў БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ ДЗЕЙНІЧАЦЬ ПАВЫШАНЫЯ СТАЎКІ АКЦЫЗАЎ НА БЕНЗІН І ДЫЗПАЛІВА

**Да 31 снежня гэтага года ў Беларусі будуць дзейнічаць павышаныя стаўкі акцызаў на бензін і дызельнае паліва. Адпаведнае рашэнне прынята Саветам Міністраў рэспублікі.**

У прыватнасці, акцызы на аўтамабільны бензін марак АІ-91, А- 92, АІ-93 павялічаны з 80 да 120 ЭКЮ за тону, марак АІ-95, А-96, А-98 — з 90 да 150 ЭКЮ за тону, бензін А-76 — з 65 да 90 ЭКЮ за тону. Акцыз на дызельнае паліва ўзрос з 40 да 50 ЭКЮ за тону.

Па ацэнках спецыялістаў, у выніку павышэння ставак акцызаў павелічэнне рознічных цэн на бензіны АІ-91, АІ-93 і А-92 складзе каля 15,9 працэнта, на бензін А-76 — 14,4 працэнта, на дызельнае паліва — 7,5 працэнта.

**Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.**

## Каманда ёсць. Чаму б там не быць і «зоркам»?

**Да 1 студзеня гэтага года плануецца канчаткова зарэгістраваць новы хакейны клуб ЗАТ «ХК «Мінск».**

Як паведаміў учора карэспандэнту «Звязды» намеснік старшыні Мінгарвыканкама, а па сумяшчальніцтву і прэзідэнт клуба Аляксандр Балакіраў, каманда пачне выступаць ужо з наступнага сезона. Кантрольны пакет акцый таварыства знаходзіцца ў гарвыканкаме, маюцца яшчэ 9 сур'ёзных сузаснавальнікаў, таму, па словах Аляксандра Васільевіча, перспектывы, у тым ліку і фінансавыя, у клуба ёсць.

Адзінае, што пакуль невядома, — як будзе камплектавацца каманда трэнерамі і гракамі. Кажуць, што будуць запрашаць хакеістаў нават з-за мяжы...

**Алесь СІВЫ.**

## На Урале рабочым аднаго з будпрадпрыемстваў выдалі зарплату віном

Екацярынбург. ІНТЭРФАКС-ЕЎРАЗІЯ. Рабочым АТ «Азбабуд» у горадзе Азбесце Свярдлоўскай вобласці ў лік доўгу па зарплаце за люты выдалі віно «Анапа», завезенае па ўзаемаразліках са Стаўрапольскага краю.

Як паведамілі мясцовыя СМІ, «Анапу» раздалі прама на рабочых месцах, у сувязі з чым адразу пасля «палучкі» на прадпрыемстве рэзка знізілася працоўная дысцыпліна, паколькі рабочыя пачыналі дэгустацыю, не чакаючы канца змены.

**Недзе ў верасні ў адной з газет прамільгнула лічба: за дзевяць месяцаў беларусы прапілі ўжо 19 трыльёнаў рублёў. У сэнсе: выдаткавалі гэтыя грошы на спіртное. Гэта, відаць, адзіная галіна, дзе паказчыкі ў нас растуць высокімі тэмпамі. Гэтым лічбам верыш адразу. Хаця ганарыцца тут няма чым.**

УМОВЫ ІСНАВАННЯ

# НАС СПОЙВАЮЦЬ ЦІ МЫ СПІВАЕМСЯ?

### «Улік» і кантроль

У горадзе Мінску на ўліку стаіць каля 30 тысяч алкаголікаў, па Беларусі — каля 170 тысяч. Паведамляючы гэтыя лічбы, любы нарколаг абавязкова дадасць: ставіцца сур'ёзна да іх не трэба. Па-першае, улік зараз фактычна адменены. Па-другое, ставяць на яго толькі тых, хто неаднойчы меў справу з міліцыяй альбо яўна ўяўляе небяспеку для людзей. Астатнія ў статыстыку не трапляюць. Тут прынята кіравацца сусветным вопытам, які сведчыць: у любой дзяржаве ад алкагольнай залежнасці пакутуюць каля 10 працэнтаў насельніцтва. Выходзіць, што ў Беларусі больш 1 мільёна алкаголікаў, скрытых і яўных.

Згодна з той жа статыстыкай, вытворчасць алкаголю на душу насельніцтва дасягнула ўзроўню 1985 года (тады ён быў максімальны). Сёння спіртное можна набыць у самых незвычайных месцах. Нават у аддзеле дзіцячых цацак раённага універмага (сам бачыў). Што тут дзіўнага: 65 працэнтаў беларускіх крамаў гандлюе алкагольнымі напоямі. Вытворчасць гарэлкі ўзрасла на 45 працэнтаў, віна — на 75. Каб было больш прадметна: на кожнага працаздольнага грамадзяніна РБ (выключаючы падлеткаў і састарэлых) летась прыпадала 75 бутэлек гарэлкі і 60 — віна.

Асабліва хутка дэградзіруе беларуская вёска, дзе ўжыванне спіртнога ёсць справа поўнасцю бескантрольная, дзе ролю беларускай грашовай адзінкі зараз выконвае выключна бутэлька беларускай жа самагонкі, а ўрач-нарколаг адзін на ўвесь раён.

У нетрах уладных структур узніклі і цяпер дыскутуюцца два дакументы: «Канцэпцыя дзяржаўнай палітыкі па папярэджанню і пераадоленню алкагалізму насельніцтва РБ» і «Дзяржаўная праграма комплексных мераў па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам». Гучыць гэта ўнушальна, але ў асяроддзі спецыялістаў выклікае скептычна-мінорны настрой.

Не, ніхто не спрачаецца, змагацца трэба. Аднак ёсць падазрэнне, што дзяржава пры гэтым вырашае свае праблемы. Скажам, нядаўняе павышэнне цэн на гарэлку — мера разумная. Але фактычна яна прывядзе да таго, што будуць піць розную атруту, як гэта было пасля 1985 года, ды гнаць самагонку. Тым больш, што нават пасля павышэння кошт гарэлкі меншы за долар. Для параўнання: у Швецыі куфаль піва каштуе 6 долараў, кубак кавы — прыкладна 3, столькі ж — пачак цыгарэт. Праўда, там і зарплата не наша.

Хочаш не хочаш, а выснова адна: для дзяржавы, відаць, «хуткія п'яныя грошы» значаць больш, чым тое, што працяглаець жыцця мужчыны-беларуса — 58 гадоў.

### «На ўсё патрэбны грошы, а іх не хапае»

Тыдні тры таму я сустрэў свайго суседа на ганку дома. Ён спаў якраз насупраць дзвярэй. А год таму ён ганяўся па кватэры за жонкай з нажом. Забіць — не забіў, але ў аддзяленне трапіў. Ранкам туды прыйшоў нарколаг і паставіў яго на ўлік. Цяпер сусед раз у квартал ходзіць у наркалагічны кабінет. «Ну што? Як справы? Не п'еш?» — пытае яго ўрач, і гутарка пераважна абмяжоўваецца толькі гэтым.

Раней трапіць на ўлік можна было, калі грамадзянін тройчы пераначаваў у выцвярэзніку, — што называецца, неабходная і дастатковая ўмова. Гэта стварала цяжкасці, але невялікія. Нельга набыць зброю, атрымаць правы і інш. Піць можна столькі ж, колькі і раней. Галоўнае — не трапляць у міліцыю. Тады размова кароткая: афармленне ў наркалагічны дыспансер, калі грамадзянін не паспеў дапіцца да нечага крымінальнага. Што датычыцца ЛПП, то тут трэба мець асаблівыя «заслугі». «Конкурс» у гэту ўстанову значна вышэйшы, чым у прэстыжныя ВНУ.

Курс лячэння ў дыспансеры — тры тыдні. Па водгуках «кліентаў» дыспансера па вул. Папаніна, лячэнне заключалася ў сядзенні ці ляжанні ў палатах. У першыя дні тут прыводзяць у прытомнасць. Далей — можна па жаданню працаваць альбо не.

Летась дыспансер на Папаніна закрылі — аварыйны стан будынка. Хворых цяпер рассоўваюць па іншых раёнах, куды іх бяруць без асаблівай ахвоты: хапае сваіх. Колькасць алкаголікаў расце, колькасць месцаў скарачаецца.

Увогуле, зараз у аддзяленнях Мінскага наркадыспансера, падкрэслівае намеснік галоўнага ўрача Уладзімір Максімчук, ляжаць толькі 30 працэнтаў працуючых. Для астатніх — гэта магчымасць адпачыць, зэканоміць на сямейным бюджэце, падкарміцца, забыцца пра ўчастковага і інш. Сапраўды паспрабаваць вылечыцца — такую мэту ставяць перад сабой адзінкі. Бо за варотамі дыспансера чакае ўсё тое ж: хранічная нястача грошай, шалёныя цэны, няпэўнасць ва ўсім.

Самі тэрміны лячэння дыспансеры вымушаны скарачаць, натуральна, з-за слабага фінансавання. Даўно трэба перагледзець штатны расклад у бок павелічэння. Ёсць вялікая патрэба ў адкрыцці НДІ па даследаванню праблем алкагалізму менавіта ва ўмовах постчарнобыльскай Беларусі. Як бачна, гэта ўсё хвалюе пакуль толькі саміх нарколагаў. «На ўсё патрэбны грошы, — адказваюць у дзяржустановах, — а іх не хапае».

А цікава, хапіла б аднаго трыльёна з прапітых беларусамі 19 на ажыўленне сістэмы наркалагічнай дапамогі?

### «П'янству — бой!»

Рызыкну меркаваць, што сур'ёзна мяняць становішча ніхто не збіраецца. Больш таго, яго ў сённяшніх умовах і нельга змяніць. Можна колькі заўгодна прымаць пастаноў, ствараць праграм і г. д., — урэшце ўсё будзе вырашаць тое, што называецца сацыяльна-эканамічным становішчам насельніцтва. Гэта прычына. Будуць піць (і п'юць) тыя, хто атрымлівае 30 долараў у месяц, а не тыя, хто — 300, што таксама не навіна.

Дзяржаву прываблівае хуткасць атрымання грошай за спіртное. Як гаворыцца, тавар з высокай ступенню ліквіднасці. Гэта дае магчымасць аператыўна латаць дзіравы бюджэт: спраўна плаціць пенсіі і зарплаты, ратаваць сельскую гаспадарку, праводзіць пышныя форумы і г. д.

Рэклама спіртнога знікла на тэлебачанні, але яна квітнее ў друку і на радыё, пераважна камерцыйным. Што піць гарэлку — гэта добра, што піць добрую гарэлку — яшчэ лепш, унушаецца на ўзроўні падсвядомасці. А далей — справа тэхнікі і грашовых магчымасцяў.

За два апошнія гады закрыта 40 падпольных цэхаў па вытворчасці «самапальнай» гарэлкі, рапартуе міліцыя. Гэта, безумоўна, добра. Аднак «смагу» беларусаў наталяюць якраз заводы, якія знаходзяцца пад юрысдыкцыяй дзяржавы. Гэта звычайна не афішыруецца. Між іншым, малюецца такая карціна: на заводах вырабляюцца дзесяткі гатункаў гарэлкі ў посудзе рознай ёмістасці — ад 100 грамаў да 1 літра — з яркімі прывабнымі этыкеткамі, не хочаш — купіш. І вып'еш. Унясеш свой сціплы ўклад у бюджэт. Потым з гэтых жа грошай табе выплацяць зарплату, прынясуць пенсію і — можна зноў у краму. Ну а потым дзяржава зацвердзіць праграму па барацьбе з нашым алкагалізмам.

І метады барацьбы, будзьце ўпэўненыя, будуць пераважна карнымі. Таму што ніякіх іншых у нас не ведаюць. Таму што чалавек, які пакутуе ад алкагалізму, у масавай свядомасці з'яўляецца злачынцам. А гэта толькі хворы.

### На парозе чарговай кампаніі

Памянёныя вышэй два дакументы мяркуецца прыняць у канцы года. Пры іх павярхоўным праглядзе знаходзім шмат правільных слоў. Напрыклад, пра тое, што толькі агульнымі намаганнямі ўсяго народа можна перамагчы хваробу. Цяжка спрачацца з такой лабавой высновай, але і цяжка звязаць канцы з канцамі. Што ўвогуле маюць на ўвазе, які народ?

У кожнага свае інтарэсы. Народ марыць выжыць, вінна-гарэлачныя заводы — атрымаць высокі прыбытак, дзяржава — залажыць гэты прыбытак у бюджэт... Як быццам народ адзін, а інтарэсы розныя. Пераважная колькасць беларусаў наконт свайго будучага настроена песімістычна. Для гэтага нават не трэба праводзіць сацыялагічныя апытанні. Ні настаўнік, ні рабочы, ні прадпрымальнік, ні навуковец — ніхто не бачыць перспектыў.

Вядомы нарколаг Сяргей Малочка лічыць, што галоўнае — знайсці заменнік п'янству. Аднак у нас гэта даволі праблематычна зрабіць. Маркі збіраць, ці што? Неяк не да марак, калі развальваецца эканоміка, калі працаваць добра няма сэнсу, дый увогуле працаваць — таксама. Так што многія робяць цалкам лагічна — шукаюць заменнік жыцця ў бутэльцы.

...У суседнім доме здарыўся пажар. Гарэла на другім паверсе, дым слупам валіў у цёмнае неба і, натуральна, на бясплатнае відовішча назбіраўся цэлы натоўп разявак. Пажар патушылі, а назаўтра радыё «Бі-Эй» паведаміла, што ў нас па суседству згарэў малады мужчына. Як выказалася вядучая, «мужчына п'яны курыў у ложку і сам сябе пакараў».

Зайздрошчу каляжанцы — для яе ўсё ясна...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

## Самы дарагі дэбют у Беларусі

Беларускі балет, як вядома, навучыўся жыць так, што пра яго ведаюць у свеце. Артысты беларускага балета ўмеюць працаваць так, што іх шануе публіка. З мінулага года гэтае шанаванне займела і матэрыяльнае напаўненне. За лепшую ролю сезона была адзначана салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі Кацярына Фадзеева. Год таму ўпершыню яна атрымала прэмію, заснаваную Беларускім прадстаўніцтвам кампаніі «Філіп Морыс».

Валянцін Елізар'еў сказаў, што тады за Кацярыну шчыра радаваліся ў тэатры. Але журы, якое адзначыла Фадзееву, працягвала працаваць і на працягу гэтага года. Бо шчодрыя мецэнаты ў чарговы раз уручаць прэмію 20 студзеня 1999 года, толькі цяпер да яе дадаецца каштоўны прыз. За 1998 год будзе адзначаны лепшы дэбют.

На прэс-канферэнцыі кіраўнік беларускага балета патлумачыў, што змяненне назвы прэміі звязана з тым, што трупа тэатра папаўняецца маладымі артыстамі, якім вельмі патрэбны стымул працаваць цікавей. Журы на чале з Елізар'евым разглядае ўпершыню выкананыя ў гэтым сезоне партыі пяці маладых артыстаў. Між іншым, асабістыя сімпатыі заснавальнікаў прэміі з «Філіп Морыс» на выбар журы не паўплываюць.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

❑ **17 снежня 1770 года** нарадзіўся вялікі нямецкі кампазітар Людвіг ван Бетховен.

❑ **17 снежня 1903 года** ў Кіці-Хок (штат Паўночная Караліна) браты Орвіл і Уілбер Райт зрабілі першыя палёты на самалёце «Флаер-I» з рухавіком унутранага згарання. Першы палёт у той дзень працягваўся 12 секунд — машына праляцела ўсяго 37 метраў, а самы працяглы — 59 секунд (250 м).

❑ **У гэты дзень у 1908 годзе** нарадзіўся Уілард Фрэнк Лібі, амерыканскі хімік, які ў 1947 годзе стварыў метад радыевугляроднага датавання, які зараз выкарыстоўваецца археолагамі, антраполагамі. За распрацоўку гэтага метаду ў 1960 годзе вучоны атрымаў Нобелеўскую прэмію.

❑ **У гэты дзень у 1928 годзе** нарадзіўся выдатны савецкі акцёр Леанід Бранявой — «папаша Мюлер» з «Семнаццаці імгненняў вясны».

❑ **17 снежня 1967 года,** купаючыся ў акіяне каля ўзбярэжжа штата Вікторыя, загінуў прэм'ер-міністр Аўстраліі Гаральд Холт — яго загрызлі акулы.

❑ **У гэты дзень у 1968 годзе** ў Мінску адкрылася Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі БССР, на якой у лепшыя гады дэманстравалася 4,5 тысячы экспанатаў.

### Дзесьці на белым свеце

***Цяжка перадаць тое здзіўленне, якое адчуў супрацоўнік аднаго з амерыканскіх кінатэатраў, калі з ім расплаціліся 50-доларавай купюрай чырвонага колеру. Яшчэ праз некалькі хвілін у гэтым жа кінатэатры была выкарыстана яшчэ адна чырвоная купюра — усё той жа наведвальнік купляў папкорн.***

Толькі пасля гэтага менеджэр установы ўспомніў, што ў банках ЗША заўсёды трымаюць напагатове спецыяльнае рэчыва, ад якога захопленыя ў час рабавання грошы з часам чырванеюць. Прыбыўшыя паліцэйскія затрымалі 23-гадовага Дэвіда Флуда, які, як высветлілася, сапраўды нядаўна абчысціў адзін з банкаў.

«Гэты хлопец быў не разумнейшы за іншых», — кажа дэтэктыў паліцыі Эд Крысціян. Ён расказаў, што Флуд з'явіўся ў банк на мінулым тыдні, навёў на клеркаў пісталет і запатрабаваў наяўнасць. Пакуль рабаўнік выстаўляў свае патрабаванні, адзін са служачых непрыкметна абліў грошы славутай вадкасцю.

### Цікава

***А памятаеце, як у часы сацыялізму рабочым у спяцоўках не прадавалі ў магазінах спіртное, а адпускалі толькі кефір, батон і тварог? Нешта падобнае прыдумалі ў Англіі, толькі там забарона закранае ваенных і паліцэйскіх.***

З гэтага часу максімум, на што можа разлічваць чалавек у ваеннай форме ў бары, дык гэта на шклянку ліманаду ці кубачак кавы. Робіцца ўсё гэта для таго, каб ваенныя не заплямілі гонару мундзіра. Акрамя таго, людзей у ваеннай форме не будуць больш пускаць у розныя забаўляльныя ўстановы — вядома, калі толькі гэта не спатрэбіцца ім па абавязку службы.

### Вось так

***Хто б яшчэ год таму сказаў, што найлепшым падарункам для сапраўднага байкера будзе не двухколавы монстр-матацыкл, а... звычайная лялька Барбі.***

Звычайная, ды не зусім. Адна з амерыканскіх кампаній вырабіла па заказу Харлі-Дэвідсан лімітаваны выпуск «Харлі-Дэвідсан Барбі герлз». Лялька апранутая як след — уся ў скуры, у бандане і ў чорных акулярах. Пры кошце ў 60 долараў лялек раскупілі ў байкерскіх магазінах імгненна. Цяпер дастаць гэтае дзіва можна толькі па Інтэрнэту, удала старгаваўшыся, за 200 долараў. Наступны выпуск Барбі-Харлі чакаецца толькі праз год.

### Кажуць што...

***Глабальнае сексалагічнае даследаванне, прымеркаванае да Сусветнага дня барацьбы са СНІДам, высветліла, што секс — галоўнае хобі расіян.***

40 працэнтаў жыхароў нашай усходняй суседкі аддаюць перавагу сексу перад любым іншым заняткам — ці то загарадная паездка, ці то вечарынка, ці паход па магазінах.

А займаюцца каханнем расіяне не толькі ў спальнях, лежачы ў ложку. Шасцёра з дзесяці дарослых жыхароў Расіі выкарыстоўвалі для гэтых мэтаў ванну, чацвёра з дзесяці — душ, адзін з трох — кухню. Больш за палову апытаных прызналіся, што рабілі «гэта» ў лесе, 40 працэнтаў — у машыне, 28 працэнтаў — на пляжы, а некаторыя нават і на борце самалёта. Даследаванне, якім было ахоплена амаль 10 тысяч актыўных дарослых грамадзян Расіі, вызначыла, што расіяне займаюцца каханнем у сярэднім 131 раз у год. Яшчэ больш энергічна робяць гэта толькі французы — 141 раз і амерыканцы — 138 разоў.

### Анекдот

*Прыходзіць заяц у лясную сталовую, заказаў шклянку чаю і булачку. Паклаўшы ўсё гэта на стол, пайшоў мыць лапы. Вярнуўшыся, заяц убачыў, што нехта выпіў увесь яго чай, а булачку пакінуў. Раззлаваўшыся, ён залез на табурэтку і спытаў:*

*— Хто выпіў мой чай?*

*Усе маўчаць.*

*— Я пытаюся, хто выпіў мой чай.*

*Маўчанне.*

*— Я апошні раз пытаюся, хто выпіў...*

*Тут устае мядзведзь:*

*— Ну я выпіў!*

*Заяц:*

*— А чаму булачку не з'еў?*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 7286.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12